ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 45 (2624)
ПЯТНІЦА
10
лістапада 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



МІНСК. ПОМНІК ЯКУБУ КОЛАСУ.

Фота Ул. КРУКА.

# КРАІНА



# АДСВЯТКАВАЛА



# КАСТРЫЧНІК



**Ад Брэста да Уладзівастока, ад Белага да Чорнага мораў адшумела чырвонымі сцягамі, адзвінела песнямі вялікае свята Кастрычніка.**

**Разам з усімі народамі краіны радасна адсвяткаваў 55 гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускі народ. На здымках нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука святочная дэманстрацыя працоўных у Мінску.**

## ВЫСОКАЯ ЎЗНАГАРОДА ЎРУЧАНА

У цёплай, сардэчнай абстаноўцы прайшло ўручэнне ордэна Леніна і залатога медаля «Серп і Молат» Героя Сацыялістычнай Працы народнаму паэту Беларусі П. У. Броўку. Ён удастоены гэтага высокага звання за выдатныя заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і плённую грамадскую дзейнасць.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР тав. Ф. А. Сурганаў, уручаючы ўзнагароду ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, пажадаў Пятру Усцінавічу добрага здароўя, вялікіх творчых поспехаў на карысць вялікай справе камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Народнага паэта Беларусі сардэчна павіншавалі з высокай узнагародай кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ тав. П. М. Машэраў, Старшыня Савета Міністраў БССР тав. Ц. Я. Кісялёў.

П. У. Броўка ў сваім выступленні горача падзякаваў партыі і ўраду за высокую ацэнку яго працы, запэўніў, што будзе нястомна працаваць на карысць любімай Радзімы, натхнёна адлюстроўваць слаўныя здзяйсненні савецкага народа.

На ўрачыстай цырымоніі ўручэння ўзнагароды прысутнічалі таварышы А. Н. Аксёнаў, А. Т. Кузьмін, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, М. Н. Полазаў, І. Я. Палякоў, М. І. Лагір, Я. П. Нікулкін, У. І. Падрэз, І. М. Траццяк.

БЕЛТА.

# БЕЛАРУСЬ УШАНОЎВАЕ СВАЙГО ПЕСНЯРА

## ПАКЛОН АД РОДНАЙ ЗЯМЛІ

У золаце асенняга ўбрання прыйшло на беларускую зямлю вялікае свята літаратуры і культуры — 90-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У памяці яшчэ свежыя нядаўнія ўрачыстасці, прысвечаныя юбілею друга і таварыша Коласа—Янкі Купалы. Юбілеі зачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры адзначаюцца ў год, калі ўсе народы шматнацыянальнай Краіны Саветаў, вялікае брацтва і непарыўнасць дружалюбных вуз якіх так страсна ўслаўлялі класікі беларускай літаратуры, рыхтуюцца да вялікага свята—50-годдзя ўтварэння СССР.

Бязмежная народная любоў да сваіх паэтаў. Раніцай 2 лістапада да іх магіл прыйшлі сотні мінчан, прадстаўнікі партыйных і савецкіх органаў, грамадскасці горада, пасланцы нашай шматнацыянальнай вялікай савецкай літаратуры — пісьменнікі брацкіх рэспублік, якія прыбылі на коласаўскія ўрачыстасці.

На магілу Якуба Коласа ўскладаюцца вянкі і кветкі ад Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў БССР, ад Саюза пісьменнікаў СССР, Міністэрства культуры СССР, пісьменнікаў Беларусі, Акадэміі навук БССР, Белсаўпрофа, ЦК ЛКСМБ, Міністэрства культуры БССР, мінскіх абкома КПБ і аблвыканкома, гаркома КПБ і гарвыканкома, ад пісьменніцкіх дэлегацый саюзных рэспублік і абласцей Беларусі, Літаратурнага музея Якуба Коласа.

Кветкі ўскладзены таксама ад дэлегацыі ЮНЕСКО, якая прыбыла ў Мінск на святкаванне 90-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, ад генеральных консульстваў ПНР у Мінску і ГДР у Мінску.

Мінутай маўчання ўшанавалі прысутныя памяць Якуба Коласа.

Жывыя кветкі былі ўскладзены і на магілу Янкі Купалы.

●

У гэтыя дні грамадскасць рэспублікі шырока адзначае юбілей народнага паэта. У школах, бібліятэках, калгасных і саўгасных дамах культуры, на прадпрыемствах арганізаваны выстаўкі, якія расказваюць аб яго жыцці і творчасці. Праводзяцца літаратурныя вечары, на якіх з успамінамі аб Якубу Коласу дзеляцца тыя, хто разам з ім жыў і ствараў, хто адчуваў на сабе бацькоўскія клопаты і падтрымку вялікага майстра слова.

1 лістапада аддзяленнем грамадскіх навук АН БССР была арганізавана навуковая сесія, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, акадэміка АН БССР К. М. Міцкевіча. Уступнае слова аб значэнні творчасці Коласа зрабіў акадэмік АН БССР К. П. Буслаў. Былі заслуханы таксама даклады кандыдата філалагічных навук У. М. Казберука — «Сацыяльныя праблемы ў творчасці Якуба Коласа», члена-карэспандэнта АН БССР М. В. Бірылы—«Якуб Колас і развіццё сучаснай беларускай літаратурнай мовы», доктара філалагічных навук А. М. Адамовіча — «Якуб Колас і сучасны беларускі раман», кандыдата філасофскіх навук А. С. Майхровіча — «Эстэтычныя погляды Якуба Коласа», кандыдата філалагічных навук М. І. Мушынскага — «Якуб Колас — крытык», кандыдата мастацтвазнаўства С. А. Пятровіча — «Якуб Колас у мастацтве». На сесіі з успамінамі аб рэдактарскай рабоце Коласа над выданнем на беларускай мове Збору твораў У. І. Леніна выступіў акадэмік АН БССР В. А. Сярбента.

Вучоныя гаварылі аб вялікіх заслугах Якуба Коласа, які шмат гадоў быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі, і яго друга і саратніка Янкі Купалы, творчасць якіх адыграла велізарную ролю ў стварэнні сучаснай беларускай літаратуры, у яе развіцці на аснове прынцыпу сацыялістычнага рэалізму.

Удзень 2 лістапада ў вялікай канферэнц-зале Акадэміі навук адбылася навуковая сесія АН БССР, прысвечаная коласаўскаму юбілею. Тут сабраліся вядомыя вучоныя, грамадскія дзеячы, пісьменнікі і госці. Уступным словам юбілейную сесію адкрыў прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі, акадэмік АН БССР М. А. Барысевіч. З дакладам «Народ у творчасці Якуба Коласа» выступіў вядомы пісьменнік, акадэмік АН БССР М. Ц. Лынькоў. Ён падкрэсліў, што пасеянае ў жыватворную глебу, узараную Вялікім Кастрычнікам, залатое зерне Коласа—яго прасякнутыя пафасам гуманізму, патрыятызму і інтэрнацыяналізму творы, яго навуковыя працы далі цудоўныя ўсходы. На беларускай зямлі вырасла плеяда таленавітых паэтаў, празаікаў і літаратуразнаўцаў, творчасць якіх памнажае багацці шматнацыянальнай савецкай літаратуры, працягвае і развівае коласаўскія традыцыі.

Доктар філалагічных навук Ю. С. Пшыркоў у сваім выступленні, прысвечаным ролі творчасці Якуба Коласа ў станаўленні сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры, адзначыў, што вялікая сіла і прыгажосць коласаўскай паэзіі дакладна вызначаюць грамадзянскую значнасць таго шляху, які паэт разам з Янкам Купалам вызначыў роднай літаратуры.

У навуковай сесіі, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, 2 лістапада прымалі ўдзел адказныя партыйныя і савецкія работнікі рэспублікі, прадстаўнікі шэрагу міністэрстваў, акадэмікі АН БССР, беларускія пісьменнікі, госці коласаўскіх урачыстасцей з брацкіх рэспублік.

У другой палавіне дня 2 лістапада госці, якія прыбылі ў Мінск, наведалі памятныя месцы Беларусі. Пісьменніцкая дэлегацыя ў саставе прадстаўнікоў нацыянальных літаратур Краіны Саветаў пабывала на 21-м кіламетры шашы Мінск — Масква, дзе ўзвышаецца велічны Курган Славы Падымаючыся па яго прыступках да вяршыні, многія з пісьменнікаў успомнілі даўно мінулыя суровыя ваенныя дні, калі яны з баямі вызвалялі ад фашыстаў гарады і вёскі Беларусі. Іх родняць з нашай рэспублікай не толькі творчая садружнасць, але і моцныя вузы дружбы, змацаванай крывёю і загартаванай у горне грозных бітваў.

Літаратары брацкіх рэспублік наведалі мемарыяльны комплекс Хатынь. Як удзячнасць жывых да памяці загінуўшых кладуцца да Вечнага агню мемарыяльнага комплексу жывыя кветкі ад пісьменнікаў, у радах якіх палымяным словам паэта змагаўся супраць карычневай чумы і Якуб Колас.

БЕЛТА.



Мітынг, прысвечаны адкрыццю помніка Якубу Коласу. Фота Ул. КРУКА.

# ПЕСНЯРУ САВЕЦКАГА БРАЦТВА

Шырока і ўрачыста адзначае беларускі народ 90-годдзе з дня нараджэння аднаго з заснавальнікаў беларускай савецкай літаратуры, песняра дружбы і брацтва савецкіх людзей Якуба Коласа. Гэта падзея стала сапраўдным святам сацыялістычнай культуры рэспублікі. Раніцай 3 лістапада, у дзень нараджэння Якуба Коласа, у сталіцы рэспублікі адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка вялікаму беларускаму паэту.

Тысячы мінчан і іх гасцей —пісьменнікаў і дзеячаў культуры Масквы і ўсіх саюзных рэспублік, якія прыехалі на коласаўскія ўрачыстасці, сабраліся на плошчы імя Якуба Коласа.

На адкрыццё помніка вялікаму песняру прыйшлі адказныя партыйныя работнікі, члены ўрада рэспублікі, сваякі Якуба Коласа.

Будаўнікі Мінска, скульптары, архітэктары і азеляніцелі, натхнёныя любоўю да свайго народнага паэта, пераўтварылі плошчу, стварыўшы на ёй уражлівы скульптурна - архітэктурны комплекс. Сябры-ленінградцы ўвасобілі твор беларускіх скульптараў у вечную бронзу...

Мітынг прадстаўнікоў працоўных і грамадскасці сталіцы адкрыў першы сакратар Мінскага гаркома КПБ М. М. Слюнькоў.

У кожнага народа, сказаў ён, у кожнай нацыянальнай культуры ёсць пісьменнікі, чыімі імёнамі ганарацца сучаснікі, чыя творчасць найбольш поўна выражае духоўную сутнасць народа, яго імкненні, спадзяванні, надзеі. У беларускай літаратуры такімі сталі імёны Якуба Коласа і Янкі Купалы.

Праз усю паэтычную творчасць Я. Коласа праходзіць галоўная тэма — тэма Радзімы, тэма народа. Коласаўскія вершы і прозу наскрозь пранізвае грамадзянскі пафас, высокае пачуццё павагі да іншых народаў. Інтэрнацыяналізм і грамадзянскасць Я. Коласа асабліва натхнёна гучаць у год 50-годдзя ўтварэння СССР, шматнацыянальнага і магутнага, дружнага і мэтанакіраванага саюза брацкіх рэспублік.

Услед за паэтам усе мы, савецкія людзі, сёння гаворым:

І я ў захапленні, радасны
і горды
за свой край, народ,
убіраю ў сэрца дзіўныя
акорды,
творчай сілы ўзлёт...

Збудаванне помніка Якубу Коласу ў сталіцы нашай рэспублікі з'яўляецца яшчэ адным выражэннем велізарнай любві народа да свайго паэта.

Мітынг адкрыты. Першае слова атрымлівае паплечнік Якуба Коласа, народны пісьменнік Беларусі, акадэмік АН БССР М. Ц. Лынькоў.

— Дарагія таварышы, дарагія госці!—гаворыць ён.— Мы сабраліся на гэту плошчу, каб выказаць нашу глыбокую любоў і павагу да аднаго з самых любімых, самых выдатных сыноў народа — выдатнага пісьменніка Якуба Коласа.

Ён — чалавек вялікага і чыстага сэрца, якое ў далёкія ўжо ад нас дарэвалюцыйныя гады ўвабрала ў сябе ўвесь боль прыгнечанага народа, усе пакуты яго і нянавісць да ворагаў. Слова паэта дапамагала народу ператвараць гэту нянавісць у вострую зброю барацьбы з царызмам, з насільнікамі і прыгнятальнікамі. Сіла коласаўскага слова заключалася ў тым, што яно было па-народнаму простае, па-народнаму даступнае, па-народнаму мудрае.

Пасля Кастрычніка Якуб Колас сваёй творчасцю — глыбока народнай і партыйнай, усёй сваёй дзейнасцю актыўна дапамагаў партыі ў вялікай гістарычнай справе сацыялістычнага пераўтварэння краіны, у камуністычным будаўніцтве. Не было ніводнай важнай падзеі ў жыцці беларускага народа, у якой не ўдзельнічаў бы паэт — і мастацкім словам, і непасрэднай асабістай работай.

Назаўсёды звязаўшы свой лёс з ленінскай справай, з камунізмам, Якуб Колас стаў выдатным прыкладам для пісьменнікаў, вучоных і ўсіх прадстаўнікоў нашай савецкай культуры.

Звяртаючыся да вялікага песняра роднай зямлі, быццам да жывога друга, Міхась Лынькоў усхвалявана працягвае:

— Не раз, дарагі Канстанцін Міхайлавіч, ты гаварыў аб месцы і ролі пісьменніка ў жыцці народа. І мы не можам не ўспомніць адно з тваіх апошніх выступленняў — артыкул «Сучаснасць і пісьменнік», апублікаваны ў газеце «Правда» ў 1956 годзе. Ты пісаў тады, што вышэйшае шчасце і прызванне для майстроў слова — верна стаяць ля чырвонага сцяга эпохі. «Гэта не гучныя словы і не якоесьці пераўвялічанае ўяўленне аб значэнні пісьменніцкай работы, а непасрэдны сэнс яе наватарства,— гаварыў ты. — Савецкай літаратуры патрэбны творы, якія нясуць у сабе яркія, жывыя рысы сучаснасці і заглядваюць у будучыню. Нават да гістарычнай тэмы звяртаемся мы як сучаснікі, каб разгледзець у мінулым рысы эпохі, жыццё і барацьбу народа вачыма савецкага грамадзяніна».

Сам Колас заўсёды быў ля чырвонага сцяга эпохі.

Дарагі і незабыўны Канстанцін Міхайлавіч! У дзень урачыстага адкрыцця помніка табе мы, пісьменнікі, клянёмся: заўсёды і ўсюды быць у першых радах барацьбітоў за лепшую будучыню ўсяго свету, за камунізм!

Няхай жа жыве ў вяках светлы вобраз вялікага песняра і яго бессмяротнае мастацкае слова! Па даручэнню ўрада Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі помнік народнаму паэту Якубу Коласу аб'яўляю адкрытым!

М. Ц. Лынькоў разам з народнымі паэтамі і пісьменнікамі БССР Героем Сацыялістычнай Працы П. У. Броўкам, Максімам Танкам, І. П. Шамякіным, народным артыстам СССР Р. Р. Шырмай, паэтам Максімам Лужаніным, Героем Сацыялістычнай Працы машыністам трэста № 15 «Спецбуд» С. М. Місуновым і калгасніцай калгаса «Радзіма Якуба Коласа» З. С. Ермаковіч пад бурныя апладысменты ўдзельнікаў мітынгу здымаюць з васьміметровай статуі пакрывала.

...На велізарным камені-валуне, якіх нямала раскідана па лясах і долах зямлі беларускай, сядзіць, задумаўшыся, бронзавы «дзядзька Якуб». З правага і левага боку ад Коласа—героі яго твораў, якія прыйшлі ў кнігі з гушчыні народнай, увабралі народны розум і кемлівасць, дабрату і сардэчнасць, сілу і мужнасць.

Аўтары скульптурна-архітэктурнага комплексу — народны мастак БССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій З. І. Азгур і лаўрэаты Ленінскай прэміі Ю. М. Градаў і Л. М. Левін — добра ведаюць аб любві Якуба Коласа да роднай прыроды. І ў цэнтр Мінска шагнулі да свайго песняра з беларускіх лясоў стройныя бярозкі і маладыя дубкі, кусты бэзу і ніцая вярба... Паэт любіў кветкі, сам вырошчваў іх. Ад гэтага часу, з вясны да позняй восені, яркія бутоны заўсёды будуць акружаць паэта. Імі расквечана ўся плошча новага комплексу.

Паміж бронзавай фігурай паэта і скульптурнымі групамі яго літаратурных герояў заззялі два маленькія возеры—рукатворныя сёстры Нарачы, Свіцязі і многіх нёманскіх старых рэчышчаў паблізу роднай вёскі паэта. А па абодва бакі ад гэтых скульптурных груп, паралельна Ленінскаму праспекту, працягнуліся фантаны — сімвалы жывой іскрыстай сілы роднай зямлі.

Яшчэ адна цікавая дэталь гэтага скульптурна-архітэктурнага комплексу адкрыецца пасажырам і пілотам авіялайнераў, якія пралятаюць над сталіцай. З вышыні нябесным падарожнікам адкрыюцца два велізарныя збожжавыя каласы, якія ўтварае ўся кампазіцыя. Як ад роднага сцябла, цягнуцца гэтыя каласы ад помніка паэту. Бо ён з усіх імён выбраў сабе на ўсё жыццё простае і яснае імя — Колас...

Калі змоўклі гукі аркестра, які выканаў Дзяржаўныя гімны СССР і БССР,— гімны вялікай Краіны Саветаў і вернай яе дачкі Беларусі, якім Якуб Колас служыў усёй сілай свайго таленту, да ўдзельнікаў мітынгу звярнуліся з пранікнёнымі словамі аб любімым паэце рабочы завода імя У. І. Леніна, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР В. К. Калтовіч і цялятніца калгаса імя Жданава Пухавіцкага раёна Г. І. Дабрыцкая.

— У нас, рабочых, — гаворыць В. К. Калтовіч, — ёсць асабліва важкія падставы любіць і ўшаноўваць Якуба Коласа. Бо сярод яго твораў вялікае і ганаровае месца займае вобраз рабочага чалавека — стваральніка новага сацыялістычнага грамадства.

— Я прыехала сюды, — сказала Г. І. Дабрыцкая, — каб выказаць вам думкі і пачуцці хлебаробаў да нашага вялікага паэта, які выбраў сваім літаратурным імем наш хлебаробскі колас, напоўнены спелым зернем. Глыбокі сэнс у гэтым слове: расці на мірнай зямлі.

Мітынг закончаны. Дзяўчаты беражліва ставяць ля падножжа помніка кошыкі з жывымі кветкамі роднай зямлі. А побач схіляюць свае венчыкі да ўзгорка, на якім думае думу любімы пясняр, кветкі неабсяжнай Расіі і Узбекістана, Малдавіі і Літвы, казахскіх стэпаў і паднябесных гор Цянь-Шаня і Каўказа... Кветкі вялікай Савецкай Айчыны — дары ўсенароднага прызнання і брацтва — гараць на суровым камені ля ног паэта-патрыёта, які навекі ўвасоблены ў бронзе ў родным, услаўленым ім Мінску.

**БЕЛТА.**

---

*Пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР*

# АБ ПРЫСУДЖЭННІ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ СССР У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ 1972 ГОДА

Цэнтральны Камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР, разгледзеўшы прапанову Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры пры Савеце Міністраў СССР, пастанаўляюць прысудзіць Дзяржаўныя прэміі СССР 1972 года:

1. **Албергсу** Валдзісу Карлавічу, заслужанаму дзеячу мастацтваў Латвійскай ССР, скульптару, **Дрыбе** Дзінтарсу Янавічу, архітэктару, **Лусіс-Грынбергу** Гунарсу Рудольфавічу, архітэктару, — за музей-помнік латышскім чырвоным стралкам у г. Рызе.

2. **Алескераву** Ганіфе Аліскендэравічу, заслужанаму будаўніку Азербайджанскай ССР, архітэктару, **Гусейнаву** Алескеру Нур алі аглы, архітэктару, **Зейналаву** Ібрагіму Ісмаіл аглы, скульптару, **Мамедаву** Ніджату Мір Юсіф аглы (пасмяротна), скульптару, — за Мемарыяльны ансамбль памяці 26 бакінскіх камісараў у г. Баку.

3. **Алікаву** Юрыю Іванавічу, аўтару сцэнарыяў, **Собалеву** Феліксу Міхайлавічу, заслужанаму дзеячу мастацтваў Украінскай ССР, рэжысёру, **Прадкіну** Леаніду Фёдаравічу, аператару, — за навукова-папулярныя фільмы «Мова жывёл» і «Ці думаюць жывёлы?» вытворчасці Кіеўскай кінастудыі навукова-папулярных фільмаў.

4. **Бабаджану** Рамзу (Бабаджанаву Рамзу Насыравічу), пісьменніку, — за паэму «Жывая вада».

5. **Яфімаву** Барысу Яфімавічу, народнаму мастаку СССР, — за палітычныя плакаты і карыкатуры 1970—1971 гг.

6. **Карыму** Мустаю (Карымаву Мустафе Сафічу), народнаму паэту Башкірыі, — за кнігу вершаў «Гадам услед».

7. **Курбету** Уладзіміру Козьмавічу, народнаму артысту Малдаўскай ССР, мастацкаму кіраўніку і галоўнаму балетмайстру ансамбля, **Усач** Тацццяне Давыдаўне, народнай артысткы Малдаўскай ССР, салісткі балета, **Фурніке** Івану Дзмітрыевічу, народнаму артысту Малдаўскай ССР, салісту балета, **Філіпчуку** Барысу Васільевічу, заслужанаму артысту Малдаўскай ССР, салісту балета, — за канцэртную праграму 1970—1971 г.г. заслужанага калектыву Малдаўскай ССР Дзяржаўнага ансамбля народнага танца «Жок».

8. **Равенскіх** (Ровенскіх) Барысу Іванавічу, народнаму артысту СССР, рэжысёру, **Шапорыну** Васілю Георгіевічу (Юр'евічу), мастаку, **Локцеву** Аляксею Васільевічу, заслужанаму артысту РСФСР, выканаўцу ролі Паўла Карчагіна, — за спектакль «Драматычная песня» ў Маскоўскім драматычным тэатры імя А. С. Пушкіна.

9. **Сац** Наталлі Ільінічне, народнай артысткы РСФСР, рэжысёру, — за спектаклі «Тры таўстуны», «Хлопчык-волат», «Сёстры» ў Маскоўскім дзяржаўным дзіцячым музычным тэатры. (За творы літаратуры і мастацтва для дзяцей).

10. **Шварцбрэйму** Юліяну Львовічу, архітэктару, кіраўніку аўтарскага калектыву, **Эдэмскай** Валянціне Якаўлеўне, архітэктару, **Тапіліну** Мікалаю Васільевічу, інжынеру-канструктару, **Карпаву** Пятру Усцінавічу, заслужанаму будаўніку РСФСР, інжынеру-будаўніку, — за архітэктуру будынка цырка ў г. Сочы.

11. **Шчадрыну** Радзівону Канстанцінавічу, заслужанаму дзеячу мастацтваў РСФСР, кампазітару, — за араторыю «Ленін у сэрцы народным» і оперу «Не толькі каханне» (новая музычна-сцэнічная рэдакцыя).

**Сакратар Цэнтральнага Камітэта КПСС Л. БРЭЖНЕЎ.**

**Старшыня Савета Міністраў Саюза ССР А. КАСЫГІН.**



# „ДАРОГА ПАРТЫІ — МАЯ ДАРОГА"

ЯКУБ КОЛАС... Гэтым імем сёння па праву ганарыцца ўся наша шматнацыянальная савецкая літаратура.

Плоць ад плоці, кроў ад крыві народнай, Якуб Колас з юнацкіх гадоў і да апошніх дзён жыцця непадзельна аддаваў свой звонкі голас паэта-трыбуна, веды вучонага і мудрасць дзяржаўнага дзеяча свайму народу, вялікай партыі камуністаў, якая прывяла Краіну Саветаў праз усе выпрабаванні да шчасця, інтэрнацыянальнага брацтва савецкіх людзей.

Святам нацыянальнай па форме, сацыялістычнай па зместу беларускай культуры і адначасова святам сацыялістычнай культуры ўсёй Краіны Саветаў стаў юбілей вялікага беларускага песняра. Яго ж імя разам з імем Янкі Купалы па праву і гонару стаіць у шэрагу выдатных талентаў Расіі, Украіны, усіх народаў краіны, якія стваралі творчасцю сваёй найвялікшы духоўны скарб чалавецтва — літаратуру сацыялістычнага рэалізму.

«Дарога партыі — мая дарога...», — з гордасцю гаварыў Якуб Колас. І таму не гаснуць з гадамі, жывуць у народзе цудоўныя кнігі паэта —кнігі мастака-ленінца. Яны гучаць сёння на ўсіх мовах народаў СССР, як гімн вялікаму брацтву будаўнікоў камунізму. З новай сілай і свежасцю ўспамінаюцца творы Якуба Коласа цяпер, у год 50-годдзя ўтварэння СССР — услаўленага ім саюза братоў.

Юбілею народнага паэта Беларусі быў прысвечаны ўрачысты сход, які адбыўся 3 лістапада, у дзень яго нараджэння, у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР.

Перапоўнена глядзельная зала, на сцэне якой — велізарны партрэт Якуба Коласа. Тут — рабочыя прамысловых прадпрыемстваў і будоўляў Мінска, пасланцы працоўных калектываў рэспублікі. У зале — беларускія пісьменнікі і іх калегі са сталіцы Радзімы — Масквы і ўсіх брацкіх рэспублік, якія прыехалі на родную зямлю Коласа на юбілей вялікага майстра слова. На коласаўскае свята прыйшлі дзеячы навукі, культуры і мастацтва, воіны Савецкай Арміі, студэнты вышэйшых навучальных устаноў, педагогі, што працягваюць справу Коласа-настаўніка, якой аддаў ён нямала гадоў...

У прэзідыуме ўрачыстага сходу — П. М. Машэраў, Ф. А. Сурганаў, Ц. Я. Кісялёў, А. Н. Аксёнаў, А. Т. Кузьмін, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, М. Н. Полазаў, І. Я. Палякоў, М. І. Лагір, Я. П. Нікулкін, У. І. Падрэз, І. М. Трацця, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Ф. Клімаў, намеснікі Старшыні Савета Міністраў БССР П. Л. Кохана, Н. Л. Сняжкова, член Ваеннага савета — начальнік Палітупраўлення ЧБВА генерал-лейтэнант А. В. Дзебалюк, кіраўнікі і члены дэлегацый пісьменнікаў і грамадскасці Масквы і ўсіх саюзных рэспублік, паэты і пісьменнікі Беларусі, вядомыя дзеячы культуры, мастацтва і навукі, знатныя рабочыя і калгаснікі, грамадскія дзеячы.

Кароткім уступным словам урачысты сход адкрыў народны паэт БССР, Герой Сацыялістычнай Працы, акадэмік АН БССР Пятрусь Броўка.

— Імя аднаго з выдатных сыноў беларускага народа, вялікага яго песняра Якуба Коласа сёння на вуснах кожнага беларуса, — сказаў П. У. Броўка. — Яго творчасць любяць і шануюць ва ўсіх кутках нашай неабсяжнай Савецкай Радзімы. Яна заваёўвае ўсё больш і больш прыхільнікаў ва ўсім свеце.

Пятрусь Броўка расказвае аб подзвігу, якім было ўсё жыццё Якуба Коласа. Здолець узняцца з самых нізін сялянскага жыцця, пераадолець усе цяжкасці — матэрыяльныя і маральныя, звязаныя з бяспраўным становішчам беларусаў у дарэвалюцыйны час, і набыць такія неабходныя яму веды — ужо было подзвігам. Але двойчы подзвіг тое, што ўсё гэта Якуб Колас рабіў дзеля служэння свайму народу. Яго не сагнулі турэмныя казематы, не зламала насілле. Як сапраўдны змагар і трыбун, ён нястомна заклікаў народ да вызвалення. Такое дадзена толькі непахісным барацьбітам, якія прысвяцілі ўсё сваё жыццё народу.

Здзейснілася мара нашага Якуба, — гаворыць ён далей, — зорка Кастрычніка асвяціла жыццё Беларусі. І мы ўбачылі Якуба Коласа на самых перадавых пазіцыях сацыялістычнага будаўніцтва. Яго палымянае слова і яго прыклад натхняюць і будуць вечна натхняць новыя пакаленні будаўнікоў камунізму. У гэтым — працяг подзвігу вялікага песняра.

Пад рознымі псеўданімамі пісаў вялікі паэт. Але спыніўся ён на найбольш дарагім: Якубе Коласе. І гэта не выпадкова. Колас — носьбіт жыцця. Колас, сабраны на ніве, — вобраз бязмежнай прыгажосці. Гаманлівыя каласы на шырокіх нівах нагадваюць і сам народ за важнай гутаркай. Сёння мы бачым, які цудоўны ўраджай падараваў неўміручы Колас свайму народу, ды і ўсяму свету. Зерні нашага Коласа — цудоўныя творы яго — леглі на ўзараную Вялікім Кастрычнікам глебу, з гэтых зярнят выраслі новыя выдатныя каласы — шматлікія творы беларускай савецкай літаратуры.

Якуб Колас любіў свой народ, да глыбіні спасцігнуў Колас душу працоўнага беларуса. Але ён быў і сапраўдным інтэрнацыяналістам. Ён аддана і горача любіў вялікі рускі народ, усе брацкія народы, з якімі мы пабудавалі наш непарушны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І калі б Якуб Колас яшчэ жыў, як бы ён парадаваўся сёння, што павіншаваць яго са слаўным 90-годдзем прыехалі пасланцы пісьменніцкай гвардыі з усіх брацкіх рэспублік.

Дзякуй вам, дарагія таварышы, нашы сябры, за тое, што вы разам з намі аддаяце пашану ў Мінску вялікаму сыну Беларусі Якубу Коласу. Разам з нашым незабыўным Янкам Купалам ён зрабіў для ўсіх нас столькі, што заваяваў права на неўміручасць ва ўдзячных сэрцах — нашых і вашых.

Якуб Колас быў не толькі вялікім паэтам. Ён быў вялікім грамадзянінам Краіны Саветаў. Камуніст, член ЦК КПБ, ён заўсёды быў у гушчыні падзей, ішоў разам з роднай партыяй у авангардзе народа. І таму партыйнае слова Якуба Коласа свеціць людзям усё ярчэй, насуперак часу.

Пятрусь Броўка дае слова народнаму пісьменніку БССР, намесніку старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Івану Шамякіну.

— Ёсць глыбокі сэнс у тым, што напярэдадні вялікага свята ўсяго савецкага народа — 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР як усенароднае свята сацыялістычнай культуры адзначаюцца юбілеі нацыянальных паэтаў, — сказаў ён. — Гэтым народ аддае даніну глыбокай пашаны сынам і песнярам сваім, якія служылі яму ў бядзе і ў радасці, духоўна ўзбагацілі яго.

Паэзія Янкі Купалы і Якуба Коласа загучала на пераломе гісторыі, калі на арэну сацыяльнай барацьбы выйшаў самы рэвалюцыйны клас — пралетарыят, калі набраў сілы яго авангард — партыя бальшавікоў, створаная Леніным.

У громе першай рускай рэвалюцыі пачуўся ўпершыню голас паэта. На мове свайго народа, якая не прызнавалася царызмам, абвясціў ён аб гаротнай долі «забытага богам краю». Якуб Колас адразу заяўляе аб сабе, як аб барацьбіту супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. Вось што піша народны паэт у сваёй аўтабіяграфіі: «Першыя гады настаўніцтва прайшлі на Палессі — у Люсіне і Пінкавічах. Тут я першы раз пазнаёміўся з нелегальнай рэвалюцыйнай літаратурай... У 1905 годзе я быў ужо заўзятым ворагам самадзяржаўя і ў гэтым напрамку вёў работу».

Такая работа патрабавала мужнасці. З першых жа вершаў ён выступае, як барацьбіт-трыбун, заклікаючы народ да актыўных выступленняў супраць памешчыкаў, супраць царызму.

Праз увесь дакастрычніцкі перыяд творчасці Якуба Коласа праходзіць вобраз селяніна-бедняка, напісаны з глыбокім веданнем яго псіхалогіі і палымяным жаданнем абудзіць сацыяльную і нацыянальную свядомасць гэтага селяніна, паказаць, што далей так жыць нельга і што ў яго ёсць адзін шлях— барацьба з прыгнятальнікамі. Першая кніга паэта, якая выйшла ў 1910 годзе, называлася «Песні жальбы». Але ў народзе ўжо жылі і коласаўскія песні барацьбы.

У гады сталыпінскай рэакцыі, асуджаны царскімі ўладамі, паэт правёў тры доўгія гады ў мінскай турме. Але Якуб Колас не паў духам. Іменна ў турме, сярод іншых вершаў, быў ім напісаны і славуты «Мужык». Гэта — яркі прыклад мужнасці паэта і грамадзяніна. Гэта — подзвіг.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, нараджэнне Беларускай дзяржавы рабочых і сялян, яе ўступленне ў Саюз ССР адкрылі новы перыяд у творчасці Коласа і Купалы, шырокі прастор для росквіту іх таленту. У першыя савецкія гады Якуб Колас працуе над завяршэннем пачатых яшчэ да рэвалюцыі паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка».

«Новая зямля» з'яўляецца сапраўднай жамчужынай творчасці Якуба Коласа і ўсёй беларускай літаратуры. Глыбокая рэалістычнасць твора дала падставы даследчыкам літаратуры зрабіць вывад, што «Новая зямля»— першы беларускі раман.

Творчая праца паэта ў 20-х гадах, яго грамадская дзейнасць сведчаць аб вялікім душэўным уздыме. Пісаў ён тады асабліва многа, і ўсё, што выходзіла з-пад яго пяра, увайшло ў залаты фонд роднай літаратуры. Так можа працаваць толькі пісьменнік, які глыбока асэнсоўваў перамены ў жыцці народа, прынесеныя рэвалюцыяй, радаваўся гэтым пераменам.

У першым буйным празаічным творы — у палескай трылогіі — Якуб Колас пачынае новую тэму, якая арганічна вынікала з усяго, што было перажыта і перадумана паэтам, — тэму станаўлення характару маладога інтэлігента з народа, яго пошукаў ідэала жыцця, якія прыводзяць яго на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Вобраз Андрэя Лабановіча — адзін з лепшых эпічных вобразаў беларускай прозы—адыграў выключную ролю ў фарміраванні першага пакалення беларускіх савецкіх інтэлігентаў і ў развіцці маладой беларускай прозы.

Па-рознаму ставілася крытыка да першых твораў Якуба Коласа аб савецкай рэчаіснасці — аповесцей «На прасторах жыцця», апавядання «Сяргей Карага» і іншых. Але ніколі нельга ўпускаць з-пад увагі, што Якуб Колас з'яўляўся першаадкрывальнікам новых тэм, новых жыццёвых канфліктаў. Творы гэтыя былі наватарскія ў высокім сэнсе слова. А таму, хто ідзе наперадзе, заўсёды цяжэй. Колас заўсёды ішоў наперадзе.

Усесаюзная і сусветная вядомасць беларускай літаратуры пачалася з «Дрыгвы», створанай Коласам на прыкладзе гераізму беларускага народа яшчэ ў гады грамадзянскай вайны. Не паглыбляючыся ў аналіз гэтага твора, гаворыць дакладчык, хочацца толькі адзначыць, што «Разгром» А. Фадзеева, «Дрыгва» Я. Коласа, «Партызаны» К. Крапівы і іншыя падобныя па духу творы савецкай літаратуры адыгралі немалую ролю ў лёсе савецкіх людзей, якія апынуліся на захопленай ворагам зямлі. Яны дапамагалі ім адказаць на самае галоўнае пытанне: як дапамагчы Радзіме, Чырвонай Арміі ў цяжкі час фашысцкай навалы.

У гады Вялікай Айчыннай вайны, па гарачых слядах падзей, Якуб Колас стварае эпічныя творы аб усенароднай партызанскай барацьбе ў Беларусі—паэмы «Адплата» і «Суд у лесе», што з'явіліся першым укладам у стварэнне велічнага манумента на славу народа, які і сёння нястомна ўзводзяць беларуская літаратура і мастацтва.

Перадваенная і пасляваенная творчасць народнага паэта — гэта ўзнёслая, радасная песня ўслаўлення савецкай эпохі, партыі, ратнай і працоўнай мужнасці будаўнікоў сацыялізму.

Нельга не падкрэсліць адметную рысу Якуба Коласа — яго інтэрнацыяналізм, нельга не выдзеліць тэму, якая займала пачэснае месца ва ўсёй яго творчасці — тэму дружбы народаў. Колас падкрэсліваў, што ён выхаваўся на класічнай рускай літаратуры. Праз усё жыццё ён пранёс удзячнасць перадавой рускай культуры, якая духоўна сфарміравала ўсю беларускую інтэлігенцыю, увесь народ. Радасна вітаў паэт саюз савецкіх народаў. Гімнам савецкаму брацтву прагучалі словы Коласа:

Ніхто гэткай сілай яшчэ
не валодаў,
І сілы такой не было.
Імя ёй свабода і дружба
народаў,
Друг верны праслаўленых
нашых паходаў
Варожаму свету на зло.

Мы, яго вучні і сучаснікі, памятаем, з якой цеплынёй і ўдзячнасцю расказваў Колас аб сваім жыцці ў Ташкенце, аб узбекскім народзе, аб узбекскіх пісьменніках. У паэтычнай практыцы інтэрнацыяналізм Якуба Коласа праявіўся ў яго выдатных перакладах на родную мову паэзіі Пушкіна, Лермантава, Шаўчэнкі, Міцкевіча, Тагора, Тычыны, Рыльскага. Багатая эпісталярная спадчына народнага паэта расказвае аб яго сардэчнай дружбе з многімі вядомымі рускімі, украінскімі, узбекскімі, літоўскімі паэтамі, перакладчыкамі і літаратуразнаўцамі.

Значэнне Якуба Коласа і яго равесніка і паплечніка Янкі Купалы ў развіцці беларускай літаратуры і ўсёй нашай нацыянальнай культуры немагчыма перабольшыць. З Якуба Коласа пачаліся ў Беларусі эпічная паэма і раман, грамадзянская лірыка і сацыяльная сатыра, апавяданне і драма, крытыка, літаратура для дзяцей, педагогіка і мовазнаўства. Якуб Колас — адзін з заснавальнікаў нашай сучаснай літаратурнай мовы.

Прадметам спецыяльных даследаванняў з'яўляецца шматгранная навуковая, партыйная і грамадская дзейнасць Якуба Коласа — народнага паэта, віцэ-прэзідэнта АН БССР, дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, члена ЦК КПБ.

— Верная традыцыям Горкага і Маякоўскага, Купалы і Коласа, — гаворыць у заключэнне І. Шамякін,— верная метаду сацыялістычнага рэалізму, прынцыпу партыйнасці і народнасці, беларуская літаратура дасягнула мастацкіх вышынь, якія ставіць яе ў рад з самымі развітымі літаратурамі свету. Сваімі дасягненнямі мы абавязаны партыі, яе бацькоўскім клопатам, яе прынцыповаму і чуламу кіраўніцтву.

Цяперашнія юбілейныя ўрачыстасці, якія праходзяць з удзелам прадстаўні-




**У прэзідыуме ўрачыстага сходу.**

коў усіх брацкіх саюзных рэспублік, збудаванне велічных помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу ў Мінску, выданне іх збораў твораў — яшчэ адно яркае праяўленне клопатаў партыі аб развіцці нацыянальнай культуры, праяўленне вялікай любві і павагі да тых, хто заклікаў народ «з цемры да святла», хто ўславіў вялікі подзвіг краіны Кастрычніка.

На трыбуне — пасланец літаратараў РСФСР, вядомы савецкі паэт Роберт Раждзественскі.

— Толькі вельмі цэласны і на рэдкасць бясстрашны чалавек мог у маладосці выбраць для сваёй творчасці да многага абавязваючы паэтычны псеўданім: Колас, — гаворыць ён. — Але толькі неймаверна таленавіты, надзвычай акрылены чалавек і паэт змог да канца апраўдаць сваё новае імя: Колас. Апраўдаць не толькі вершамі, якія загучалі на розных мовах народаў зямнога шара, увайшлі ў скарбніцу савецкай і сусветнай паэзіі. Якуб Колас апраўдаў сваё імя яшчэ і ўсім жыццём сваім. Кожным годам, кожным днём, кожнай гадзінай гэтага жыцця.

Колас... Ён увабраў у сябе ўсе жыватворныя сокі зямлі беларускай, усю яе магутнасць і распеў. Ён вырастаў разам з народам, чэрпаючы ў ім сілы і аддаючы яму свае. Толькі так можа жыць, толькі так і можа пісаць сапраўдны паэт.

Ён заўсёды заставаўся шчодрым Коласам, які жывіў душы людзей, звінеў на высокай ноце жыцця. Такі ён быў і ў дні вайны, і ў дні міру. Такі жыве ён цяпер не толькі ў бронзе і граніце, не толькі на кніжных паліцах, але ў сэрцах чалавечых.

Я гляджу на каласы ў гербе Савецкага Саюза, у гербе Савецкай Беларусі. Я гляджу на іх і ўспамінаю вялікага паэта. Справа тут не ў ігры слоў і не ў наўмысным паэтычным вобразе. Справа ў нашым ладзе жыцця. Сапраўдная паэзія стала такой жа неабходнай савецкаму народу, як хлеб, які нараджаецца на гэтай зямлі. Такая паэзія Якуба Коласа. І мы, савецкія паэты, савецкія пісьменнікі, клянёмся зрабіць усё ў меру сваіх сіл і таленту, каб нашы вершы, каб наша слова было вартае народа, які мы прадстаўляем. Было вартае вялікага савецкага народа.

Услед за вядомым савецкім паэтам на трыбуну выйшаў знатны рабочы Мінскага маторнага завода, Герой Сацыялістычнай Працы І. Я. Парфёненка. Першымі словамі мінскага маторабудаўніка былі словы гарачай удзячнасці Якубу Коласу за ўсё, што зрабіў ён для працоўнага народа, які будуе камунізм у сваёй вялікай Айчыне — Краіне Саветаў.

— Цяжка знайсці сёння чалавека, які б не чытаў, не цаніў, не любіў усім сэрцам коласаўскіх твораў, — сказаў ён. — «Новая зямля» і «Сымон-музыка», «Дрыгва», «На ростанях» — гэтыя і многія іншыя кнігі аб барацьбе народа за шчасце блізкія і дарагія ўсім нам. Якуб Колас і сёння ў нашым баявым страі. Мы чуем, як над мірнымі палямі, над нашымі гарадамі, у цэхах заводаў з новай сілай гучыць яго песня і кліча нас на вялікія справы.

За ўсё, што ты аддаў
народу,
За шчодрасць сэрца,
шчырасць мар,
За кліч свой горды
да свабоды
Паклон прымі ад нас,
пясняр!

— Якуб Колас, — сказаў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў РСФСР Сяргей Залыгін, — адносіцца да горкаўскага пакалення савецкіх пісьменнікаў, якім выпала шчасце ўдзельнічаць у падзеях велізарнага гістарычнага значэння. Ён быў поўны паэзіі і тады, калі быў сельскім хлопчыкам, і тады, калі стаў акадэмікам.

Мы, рускія людзі, успамінаем аб тым, што Якуб Колас настаўнічаў у рускай сельскай школе, а будучы вучоным, складаў слоўнік беларускай мовы. Гэты чалавек працаваў на дзвюх мовах, аб'ядноўваючы іх разам. А сёння слова яго гучыць на ўсіх мовах нашага вялікага брацтва.

Дазвольце мне перадаць у гэты радасны ўрачысты дзень прывітанне ад рускіх людзей землякам Якуба Коласа, якога мы ў Расіі глыбока паважалі, паважаем і заўсёды будзем паважаць.

— Сярод пісьменнікаў ёсць зоркі першай велічыні, — гаворыць пасланец брацкай украінскай літаратуры Барыс Алейнік. — Думкамі такіх пісьменнікаў кіруе прага служыць народу, весці яго да светлай мэты. Беларускі народ можа ганарыцца тым, што ён даў свету выдатных паэтаў — Янку Купалу і Якуба Коласа, творчасць якіх вядома цяпер усім народам нашай шматнацыянальнай Радзімы. Сапраўды яны — зоркі першай велічыні на небе вялікай савецкай літаратуры.

Якуб Колас быў народным паэтам не толькі па званню, працягвае Барыс Алейнік. Ён народны ва ўсёй сваёй шматграннай творчасці, якая клікала людзей на шырокую дарогу шчасця. Мне асабліва прыемна адзначыць, што Якуб Колас адным з першых пракладваў масты дружбы паміж беларускай і ўкраінскай літаратурамі. Дзякуючы яго таленту на беларускай мове загаварыў і наш вялікі Кабзар.

Напярэдадні вялікага свята — 50-годдзя ўтварэння СССР, аглядваючыся на пройдзены шлях, мы на кожным кроку сустракаем прыклады хвалюючай дружбы, духоўнага адзінства нашых народаў. Многае зрабілі для ўмацавання братства людзей усіх нацый і вялікія нацыянальныя паэты, чые творы залатымі старонкамі ўвайшлі ў скарбніцу сацыялістычнай культуры. Сярод такіх пісьменнікаў мы па праву называем імя Якуба Коласа.

Удзельнікаў сходу сардэчна павіншаваў з юбілеем Якуба Коласа пісьменнік Узбекістана Ібрагім Рахім.

— Шаноўныя беларускія сябры, — сказаў ён, — дазвольце мне перадаць вам прывітанне ад узбекскага народа, і асабліва — ад жыхароў ташкенцкай вуліцы імя Якуба Коласа, якія лічаць беларускага песняра сваім ганаровым суседам і грамадзянінам.

У суровы ваенны час Якуб Колас жыў у Ташкенце. Там у 1942 годзе было адзначана яго 60-годдзе. Да гэтай даты ў сталіцы Узбекістана выдалі два зборнікі яго вершаў.

— Мы, узбекі, гаворым, што Якуб Колас і наш паэт, і не толькі таму, што ён жыў з намі, палюбіў наш народ, — гаворыць Ібрагім Рахім. — Галоўнае, што наш Колас выказаў думы і спадзяванні ўсіх працоўных людзей. Ён аксакал усёй нашай савецкай паэзіі.

— На юбілей Якуба Коласа мы прыехалі ўдваіх з паэтам Кайратам Жумагаліевым, — гаворыць пасланец Казахстана Хамід Ергаліеў. — Нядаўна Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагародзіў майго таварыша Ганаровай граматай за актыўны ўдзел у Тыдні літаратур народаў СССР у Беларусі. Усе нашы пісьменнікі ўспрынялі гэта як высокую ацэнку свайго ўкладу ў развіццё сяброўскіх сувязей нашых літаратур. Ад іх імя я выказваю вялікую падзяку за ўзнагароду.

Гэта маё другое наведанне Мінска. Упершыню я быў тут адразу пасля вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Памятаю, як мы хадзілі па вуліцах, ахопленыя страшэнным жахам. З вялікай радасцю гляджу я на сённяшні Мінск, адроджаны з руін рукамі працавітага народа. Новыя вуліцы, жылыя кварталы — гэта велічны помнік і Якубу Коласу.

У нас у Алма-Ацінскім музеі захоўваецца безрукаўка з аўчыны, у многіх месцах прабітая кулямі. Яна належыць казахскаму пісьменніку, беларускаму партызану Адзію Шарыпаву. Мы яго з гордасцю называем прамым нашчадкам коласаўскага дзеда Талаша.

Калі ў бядзе мы разам дзялілі варожыя кулі, то цяпер дзелім радасць стваральнай працы. Сыны і дочкі беларускага народа разам з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей унеслі дастойны ўклад у казахстанскі мільярд з лішнім пудоў збожжа, якое ўлілося ў засекі нашай Радзімы ў гэтым годзе. Ад імя сваіх землякоў я прыношу народу Беларусі вялікі казахскі рахмет.

Гэта — прыклады вялікай і непарушнай дружбы ўсіх савецкіх народаў, якую услаўляў Якуб-ата, як яго любоўна называюць у Казахстане. Яго творчасць стала папулярнай у нашага чытача, а беларускія героі атрымалі пастаянную прапіску ў сэрцах казахскага народа.

Ад імя ўсіх працаўнікоў сельскай гаспадаркі вялікую падзяку і ўдзячнасць Якубу Коласу, які стварыў энцыклапедыю жыцця селяніна, выказаў старшыня калгаса імя Леніна Клецкага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы І. І. Плаўскі.

— Сваімі творамі народны паэт заклікаў да барацьбы, да дзеяння, — гаворыць ён. — У адным з вершаў Колас пісаў:

Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана.

І ён прачнуўся, наш родны край. Як бы радаваўся народны паэт, які так шчыра любіў свой родны край, сённяшнім калгасным нівам, нашым высокім ураджаям. Як бы ганарыўся Якуб Колас нашымі поспехамі і непарушнай шчырай дружбай народаў нашай шматнацыянаper

(Заканчэнне на 6-й стар.)



# «ДАРОГА ПАРТЫІ—МАЯ ДАРОГА»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4—5.)

най Савецкай краіны, якая з году ў год мацнее і развіваецца.

Яго сэрца білася разам з сэрцам народа. Таму і сёння Якуб Колас жыве сярод нас. Ён разам з намі на рыштаваннях новабудоўляў, дзе на месцы рыбаковай хаты будуюцца прыгожыя дамы. Ён у полі — разам з былым бяспраўным селянінам водзіць па бязмежных прасторах магутныя трактары. Ён у інстытуцкай аўдыторыі і ў светлых класах школ, у палацах і дамах культуры.

Імя Якуба Коласа акружана вялікай народнай любоўю, бо ён быў яго славай, яго гонарам і сілай. Творы яго — вечная крыніца, з якой усе мы чэрпаем любоў да роднай зямлі, павагу да працы.

Ад імя хлебаробаў Міншчыны І. І. Плаўскі ўручае беларускім пісьменнікам залатыя каласы — сімвал багацця роднай зямлі.

Выступае грузінскі паэт і драматург Карла Каладзе. Госць з Тбілісі расказвае, што цяпер героі твораў Якуба Коласа на ўвесь голас загаварылі на мовах народаў Грузіі: выдавецтвы рэспублікі выпускаюць у перакладах многія кнігі паэта. Іх ведае і любіць у нашай рэспубліцы і рабочы ад станка, і чаявод, і школьнік горнага паселішча. Яны блізкія сэрцу грузіна гэтак жа, як і сэрцу беларуса. Таму што вучаць любіць сяброў і ненавідзець ворагаў, заклікаюць да інтэрнацыянальнага братэрства, услаўляюць камуністычныя ідэалы.

— Вось чаму дзевяностагоддзе з дня нараджэння вялікага песняра нашай любімай сястры Беларусі не толькі яе нацыянальнае свята, але і свята Грузіі, — гаворыць Карла Каладзе.

Азербайджанскі паэт Хікмет Зія падзяліўся сваімі ўражаннямі ад сустрэч з беларускім краем. Ён адзначыў прыемныя змяненні, якія адбываюцца ў абліччы Мінска і ўсёй рэспублікі. Гаворачы аб дабраце і гасціннасці беларускага народа, прадстаўнік літаратуры сонечнага Азербайджана сказаў, што іменна ў такога народа мог нарадзіцца і вырасці вялікі сын, якім могуць ганарыцца ўсе народы нашай шматнацыянальнай Савецкай Радзімы.

— У нас у рэспубліцы гавораць, што паэт-грамадзянін — гэта сумленне народа, — працягвае Хікмет Зія. — Такое сумленне ў беларусаў — Якуб Колас, якога па праву называюць народным паэтам і ў нас ў Азербайджане. Яго творы знайшлі шлях да сэрца нашага чытача. Гэта сведчанне непарушнай дружбы ўсіх народаў нашай вялікай Радзімы і іх літаратур.

Ад калектыву Навашынскага суднабудаўнічага завода ўдзельнікаў урачыстага сходу горача і сардэчна вітаў дырэктар прадпрыемства С. П. Волкаў. Ён сказаў, што калектыў завода з гонарам выканаў дадзенае яму адказнае даручэнне — у параўнаўча кароткі тэрмін пабудаваў марскія сухагрузныя судны «Янка Купала» і «Якуб Колас». Нядаўна цеплаход «Якуб Колас» спушчаны на ваду. Цяпер ён накіроўваецца ў адзін з чарнаморскіх портаў. У дар музею народнага песняра С. П. Волкаў перадаў макет судна, якое носіць імя паэта.

На трыбуне — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Літоўскай ССР Альгірдас Поцюс.

— З імем Якуба Коласа,— сказаў ён, — звязаны многія старонкі гісторыі сталіцы нашай рэспублікі — бліжэйшай суседкі і друга Беларусі. У 1906 годзе ў Вільнюсе быў упершыню апублікаваны верш паэта. А неўзабаве і ён сам прыехаў сюды, пачаўшы работу ў газеце «Наша ніва». Аднак з-за праследаванняў царскай жандармерыі паэт вымушаны быў пакінуць горад. Але і кароткае знаходжанне Якуба Коласа ў Вільнюсе пакінула глыбокі след. Наш народ горача любіць і ўшаноўвае памяць вялікага песняра Беларусі. Побач з домам, дзе ён жыў, у бібліятэцы адкрыта вялікая экспазіцыя, якая расказвае аб яго жыцці і творчасці. Прамоўца гаворыць аб мацнеючых сувязях брацкіх савецкіх літаратур.

На трыбуне — малдаўскі пісьменнік Богдан Істру. Нядаўна ўся літаратурная грамадскасць краіны, увесь савецкі народ, гаворыць ён, адзначылі 90-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі — Янкі Купалы. А сёння, напярэдадні ўсенароднага свята — 50-годдзя ўтварэння СССР мы з вялікім хваляваннем адзначаем юбілей Якуба Коласа. Іх творы сталі неад'емнай часткай літаратурнага багацця ўсіх савецкіх народаў.

Агульнавядома, якое велізарнае значэнне мае творчасць Якуба Коласа ва ўсталяванні дружбы паміж народамі вялікай Краіны Саветаў. Сіла і разнастайнасць яго таленту, глыбокае веданне жыцця народа, непахісная воля да барацьбы за лепшую будучыню і шчасце працоўнага чалавека служылі і будуць служыць школай высокай патрыятычнай накіраванасці творчасці многіх і многіх пакаленняў савецкіх пісьменнікаў.

Якуб Колас — пісьменнік-барацьбіт, які непадзельна звязаў свой лёс з лёсам сваіх герояў, свайго любімага народа. Ён застанецца для ўсіх нас прыкладам вернага служэння Савецкай Радзіме, вялікім ідэалам Камуністычнай партыі.

Ад імя генеральнага дырэктара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры пана Рэнэ Майо ўдзельнікаў урачыстага сходу вітаў прадстаўнік сакратарыята ЮНЕСКО В. А. Цюрын. Творчасць Якуба Коласа набыла шырокае міжнароднае прызнанне. Сведчаннем гэтага, паведаміў тав. Цюрын, з'яўляецца ўнясенне 90-й гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа ў міжнародны каляндар святкавання гадавін вялікіх людзей і гістарычных падзей.

Многія творы Якуба Коласа, сказаў ён, перакладзены на мовы народаў СССР і іншых краін. Іх чытаюць у Польшчы, Балгарыі, ГДР, Чэхаславакіі, Румыніі, Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспубліцы, Фінляндыі і іншых дзяржавах. Творчасць Якуба Коласа — гэта неад'емная частка прагрэсіўнай культуры ўсяго чалавецтва і, перш за ўсё, славянскай культуры. У праграме дзейнасці ЮНЕСКО значнае месца займе праект, які ставіць сабе на мэце ўсебаковае і глыбокае вывучэнне славянскіх культур. У плеядзе многіх вялікіх дзеячоў культуры славянскіх народаў адно з пачэсных месц займае Якуб Колас.

Якуб Колас нястомна выступаў за ўмацаванне дружбы паміж усімі народамі, дружбы, заснаванай на давер'і і ўзаемаразуменні. Ажыццяўляючы праект вывучэння славянскіх культур, мы можам з поўнай упэўненасцю сказаць, што ЮНЕСКО ўнясе свой дастойны ўклад у шырокую папулярызацыю творчасці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.



Удзельнікі пасяджэння — Аркадзь Кандрусевіч з г. Магілёва, Шатман Садыбакаў з Кіргізіі, беларускі драматург Андрэй Макаёнак, Кайрат Жумагаліеў з Казахстана і Міхаіл Хонінаў з Калмыкіі.
Фота А. САСІНОЎСКАГА і Ф. БАЧЫЛЫ.

# ТЭАТРАЛЬНЫЯ СТАРОНКІ

**ТЭАТРАЛЬНЫЯ СТАРОНКІ ў жыцці і творчасці Якуба Коласа даследчыкі і практыкі сцэнічнага мастацтва пачынаюць гартаць з восьмага нумара «Нашай нівы» за 1912 год. Там эпублікаваны водгук паэта на прадстаўленне Віленскага музычна-драматычнага гуртка.**

«Мне прыходзілася, — пісаў тады Я. Колас, — бачыць беларуса пры ўсякіх выпадках яго жыцця. Бачыў яго ў беднай абстаноўцы дамашняга жыцця, бачыў у радасці і ў горы, у няшчасці, у астрозе. На тэатральных падмостках мне давялося ўгледзець беларуса першы раз...» Яго захапіла ўмельства і тэмперамент акцёраў-аматараў, ён радаваўся, што кожны з выканаўцаў роляў у спектаклі «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага «...паказаў нямала ведання душы простага чалавека і так увайшоў у яго аблічча, што можна смела сказаць: гэтак, і толькі гэтак трэба рабіць, гаварыць і трымаць сябе...» Зразумела, што Я. Коласа першнаперш прывабіла праўда жыцця, якая стала праўдай мастацтва. «Гэты вечар паказаў мне, што, канешне, трэба шырыць ідэю тэатра. несці яго ў вёскі і мястэчкі, у самыя нізіны, а беларус, як мне здаецца, мае вялікую здольнасць да тэатра», — такая была прарочая выснова з ўражанняў і роздуму народнага песняра, якія абудзіў у ім прагледжаны ў 1912 годзе спектакль.

Яшчэ не было ў нас прафесійнага тэатра, беларускае слова толькі прабівала сабе шлях на сцэнічныя падмосткі, а Янка Купала і Якуб Колас не толькі падтрымлівалі творчыя шуканні такіх піянераў беларускага тэатра, як Ігнат Буйніцкі, Фларыян Ждановіч і Уладзіслаў Галубок, яны стваралі драматургічныя творы, адрасаваныя сапраўднай рэжысуры і сапраўднаму артыстычнаму мастацтву. І тут значэнне зробленага для сцэны Я. Коласам мае асаблівую каштоўнасць.

Калі мы чытаем прозу і паэзію, што належыць пяру гэтага знаўцы народнага жыцця, то адчуваем, як натуральна і арганічна бачыў ён драматызм сучаснай яму рэчаіснасці. Такое бачанне не магло не адбіцца на жанравых інтарэсах пісьменніка. Ён сваімі паэмамі, апавяданнямі, вершамі як бы «абяцаў» і драму. Спачатку Я. Колас пісаў невялікія па памерах п'есы — «Антось Лата» і «На дарозе жыцця». У 1925 годзе на падставе сваіх уражанняў ад арганізацыі і працы першага з'езда беларускіх настаўнікаў, які адбыўся ў 1906 годзе ў Мікалаеўшчыне, ён напісаў «Забастоўшчыкаў». На думку даследчыкаў творчасці Я. Коласа, ужо тут, фактычна на дакументальным матэрыяле, мастак паказаў высокае майстэрства «жывапісаць словам», даваць дакладную моўную характарыстыку дзейным асобам.

Праз год пасля «Забастоўшчыкаў» пісьменнік пачынае працу над драмай «Вайна вайне», якая спачатку мела назву «Вайна да пабеднага канца». Канчатковая рэдакцыя п'есы стваралася аўтарам разам з калектывам Другога БДТ (цяпер Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа). «Ідэйны змест гэтай драмы — пратэст супроць вайны імперыялістычнай у імя вайны грамадзянскай», — так вызначыў пафас твора сам драматург.

Так «чытаў» драму і тэатр — рэжысёр В. Дарвішаў, мастак А. Буслаеў, выканаўцы галоўных роляў М. Звездачотаў, А. Ільінскі, М. Бялінская, Л. Мазалеўская, П. Малчанаў, І. Катовіч, Ц. Сяргейчык. Цікава, што на сцэне Другога БДТ тады ўпершыню так маштабна была паказана масавасць рэвалюцыйнага руху на Беларусі, свабодалюбства беларускіх працоўных, якія змагаліся за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі, партыі Леніна. Рэжысура спектакля вызначалася эпічным размахам і дамагалася гранічнай рэальнасці ў адлюстраванні нядаўняга мінулага. Дакладна была перададзена атмасфера падзей з іх вялікай гістарычнай перспектывай (са сцэны важка і выразна гучала слова Я. Коласа: «...Вайна за нашу волю, за наша шчасце не скончана, яна толькі пачынаецца...»). Гледачы горача віталі выканаўцаў і апладзіравалі многім сцэнам спектакля, а рэспубліканская газета «Рабочий» раіла грамадскім арганізацыям выкарыстоўваць пастаноўку драмы «Вайна вайне» ў разгортванні культурна-палітычнай работы сярод працоўных мас.



Якуб Колас з трупай Другога БДТ у Віцебску пасля прэм'еры спектакля «Вайна вайне».



Якуб Колас чытае калектыву Другога БДТ п'есу «У пушчах Палесся», 1937 год.

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

# ДАРАГІЯ ІМЁНЫ

Колас.
Купала.
У гэтых імёнах калыханку я чую,
Якую мне маці над светлай калыскай
спявала,
Колас.
Купала.

Мелодыю мовы славянскай я чую,
Той мовы, якую
Агнямі палілі, ды з попелу Феніксам-
птахам яна паўставала, —
Колас.
Купала.

Падобны на шэпт збажыны
І на плёскат азёрны імёны,
Якія паэтам сваім Беларусь
даравала, —

Колас.
Купала.
А ў дні ліхалецця званілі званы,
І слова змагання і помсты,
Як гром навальніцы, у гэтых імёнах
гучала, —
Колас!
Купала!
І слова любові, братэрства, свабоды
Над імі, як сцяг, палымяны лунала, —
Колас.
Купала.
На вечныя векі вятры намялі
Курган вашай славы
На Новай зямлі,
Паэзія...
Колас.
Купала.

На стыку трох рэспублік —Латвіі, Літвы і Беларусі— насыпаны высокі курган — памяць аб подзвігу партызан трох гэтых рэспублік у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Латвійскі пісьменнік Юлій Ванаг расказаў, што мужная барацьба беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў была прыкладам для латышоў.

— Вялікае дзякуй адважным народным мсціўцам Беларусі за дапамогу ў развіцці партызанскага руху ў Латвіі, за ратнае брацтва з латвійскім народам, — сказаў ён. — Радасна ўсведамляць, што сёння мы знаходзімся на зямлі Беларусі, у гасцях у народа — ветэрана гераічнай барацьбы за свабоду Савецкай Радзімы, чыя мужнасць жывілася вялікімі ідэямі патрыятызму, якія напаўнялі палымяныя вершы Якуба Коласа.

Ад імя пісьменнікаў і ўсіх працоўных Кіргізіі брацкае сардэчнае прывітанне і нізкі паклон роднай зямлі Коласа перадаў паэт Суюнбай Эраліеў. Ён падкрэсліў у сваёй прамове, што Якуб Колас адкрыў усяму свету багатую душу беларускага народа, яго спадзяванні і імкненні, бяспрыкладны гераізм у дні будаўніцтва новага жыцця і абароны заваёў Кастрычніка.

— Усё, чым жыў беларускі народ, блізкае і зразумелае кіргізам, — працягвае Суюнбай Эраліеў. — Вось чаму Якуб Колас стаў і нашым родным паэтам. Яго вершы шмат разоў выдаваліся на кіргізскай мове.

Палымяная паэзія Якуба Коласа, прасякнутая гуманізмам, светлымі ідэямі дружбы паміж народамі, вялікай любоўю да Радзімы, выхоўвае патрыятызм, гордасць за савецкі народ і сваю краіну. Такая паэзія бессмяротная.

Слова — народнаму артысту СССР, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР Л. Р. Рахленку. Ён гаворыць аб тым, які жыватворны ўплыў аказала творчасць Якуба Коласа на развіццё ўсіх відаў мастацтва, як яго паэтычнае слова, грамадзянскі пафас, шчодрае сэрца і мудрыя думкі ўзбагачалі акцёраў і рэжысёраў, жывапісцаў і скульптараў, музыкантаў і кампазітараў.

— Якуб Колас — класік беларускай літаратуры, — гаворыць Л. Р. Рахленка, — класік усёй шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Але ён і самы жывы і родны наш сучаснік. Служэнне народу, вялікім ідэалам камунізму было яго святым абавязкам, святым прызваннем. Ён пісаў, што мастак абавязаны заўсёды стаяць ля рэвалюцыйнага сцяга эпохі. Гэта заклік да ўсіх нас, дзеячаў мастацтва.

Якуб Колас, раскрываючы працоўнае жыццё, барацьбу беларускага народа за шчасце, з такім жа натхненнем услаўляў брацтва ўсіх савецкіх народаў, якія дзялілі адзін лёс, жылі адным жыццём, — сказаў таджыкскі пісьменнік Фацех Ніязі. — Таджыкскія пісьменнікі, рабочыя, калгаснікі прыслалі нас у Мінск, каб ад глыбіні душы падзякаваць беларускаму народу, які даў нам такога таленавітага, такога блізкага ўсім народам паэта, што ўславіў нашу цудоўную Радзіму, якім быў Якуб Колас.

Як сказаў адзін таджыкскі паэт, добры чалавек падобны да магутнага дрэва, якое ў летнюю спёку ўкрывае людзей сваім ценем, саграває агнём сваіх паленняў у зімовую сцюжу, а ў дарозе, стаўшы кіем, становіцца апорай. Яго высокая крона — маяк для падарожнікаў. Такім добрым чалавекам быў і застаецца Якуб Колас.

Фацех Ніязі перадае ў дар беларускаму народу дыван-партрэт заснавальніка Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік У. І. Леніна, сатканы таджыкскімі майстрыхамі.

У выступленні армянскага паэта Ашота Грашы прагучала вялікая ўдзячнасць народа Арменіі таленту і майстэрству Якуба Коласа, які ўсёй сваёй творчасцю ўслаўляў вялікую дружбу нацыянальных літаратур і народаў Краіны Саветаў.

Пераадолеўшы тысячы кіламетраў, у зале ўрачыстага сходу прагучала сардэчнае і брацкае прывітанне з далёкай Туркменіі. Яго прывёз ад імя свайго народа, у сэрцы якога жыве імя вялікага беларускага майстра мастацкага слова, туркменскі паэт Анаберды Агабаеў. Ён адзначыў, што створаныя на беларускай зямлі і акрыленыя сотнямі выданняў на розных мовах і гаворках, песні Коласа, нібы птушкі, разляцеліся па неабсяжнай Савецкай краіне

— Жывучы на «новай зямлі», пераадольваючы шляхі «на прасторах жыцця», заглядваючы ў «хату рыбака», слухаючы вечарамі «голас зямлі», — сказаў паэт — мы вучымся сёння ў Якуба Коласа любіць і ўслаўляць нашу Айчыну.

Перадаўшы гарачае прывітанне працоўных Эстоніі землякам вялікага песняра, эстонскі пісьменнік Ян Крос сказаў:

— Мы, пісьменнікі Эстоніі, гісторыя савецкай літаратуры якой яшчэ вельмі кароткая, асабліва востра адчуваем плённы ўплыў і значэнне творчасці вялікіх майстроў сацыялістычнага рэалізму, адным з якіх быў Якуб Колас. Яго выдатная паэзія і проза натхняюць і будуць натхняць эстонскіх пісьменнікаў на стварэнне твораў, якія ярка адлюстроўваюць вялікія здзяйсненні савецкага народа — народа-стваральніка.

Якуб Колас быў вялікім сябрам і чулым настаўнікам моладзі. Таму юная змена плаціць свайму настаўніку шчырай любоўю і павагай. Аб гэтым цёпла гаварыла на сходзе студэнтка Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна Аня Дашко.

— Мы добра памятаем словы паэта, — заявіла яна, — выказаныя юнакам і дзяўчатам у дзень свайго сямідзесяцігоддзя:

«Ідзіце ў нагу з жыццём, не адставайце, а апярэджвайце яго. Не закапайце ў зямлю вашых талентаў, а памнажайце і аддайце іх народу, Камуністычнай партыі, якія росцяць і выхоўваюць вас».

Мы, студэнты, будучыя настаўнікі літаратуры, з пачуццём высокай грамадзянскай адказнасці выконваем яго наказ — нястомна штурмуем вышыні навукі, авалодваем вопытам бацькоў-камуністаў, каб стаць высокасвядомымі і самаадданымі патрыётамі сваёй Радзімы — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Вера вялікага песняра ў нашы здольнасці, у светлую і шчаслівую будучыню савецкага юнацтва акрыляе нас.

Любоў і ўдзячнасць народа да свайго песняра пацвердзіла прывітальная тэлеграма, якая паступіла ў прэзідыум сходу.

Яе прыслалі калгаснікі ордэна Леніна калгаса «Аснежыцкі». «Мы ганарымся тым, — гаворыцца ў ёй, — што наш выдатны зямляк Якуб Колас працаваў настаўнікам у вёсцы Пінкавічы нашага калгаса... Яго палымяныя вершы і сёння натхняюць нас на працоўныя подзвігі ў імя любімай Савецкай Радзімы».

Урачысты сход, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння вялікага сына Беларусі Якуба Коласа, выліўся ў яркую дэманстрацыю непарушнай дружбы народаў Краіны Саветаў і іх літаратур, трыумфу ленінскай нацыянальнай палітыкі КПСС.

У заключэнне адбыўся вялікі святочны канцэрт майстроў мастацтваў БССР.

□

Вечарам, 3 лістапада, у гонар гасцей юбілейных коласаўскіх урачыстасцей быў наладжаны прыём.

БЕЛТА.



. Якуб Колас і рэжысёр В. Дарвішаў каля макета дэкарацый да спектакля «У пушчах Палесся».



Сцэна са спектакля «Вайна вайне» У ролі Патапа заслужаны артыст БССР П. Іваноў, у ролі Алеся — народны артыст БССР М. Звездачотаў.



«Навальніца будзе». У ролі Лабановіча заслужаны артыст БССР М. Федароўскі, у ролі Аксёна Каля народны артыст БССР Ф. Шмакаў. Фота С. КОХАНА.

Пазней Якуб Колас пазнаёміў Другі БДТ з новай п'есай «У пушчах Палесся», напісанай ім па матывах вядомай аповесці «Дрыгва». Гэты драматургічны вопыт можна, дарэчы, лічыць першым у галіне дакументальнага жанру ў сцэнічным мастацтве Беларусі. У цэнтры падзей п'есы — славуты партызанскі дзеяч Васіль Талаш. Вельмі каларытная фігура галоўнай дзейнай асобы надавала твору выключна важнае значэнне яшчэ і таму, што тады ў асяроддзі работнікаў тэатра і крытыкаў вяліся дыскусіі адносна «станоўчага героя». Якуб Колас гэтым персанажам як бы праклямаваў сваё ўяўленне аб тым, якім павінен і можа быць такі герой у сучаснай драме.

Спектакль паставіў таксама В. Дарвішаў. І на гэты раз ён выразна пабудаваў масавыя сцэны, знайшоў па-мастацку насычаную атмасферу падзей, якія нібы ў вір уцягваюць новыя і новыя персанажы.·.

Самай выдатнай акцёрскай работай было выступленне ў ролі дзеда Талаша А. Ільінскага. Ён асабіста пазнаёміўся з прататыпам сваёй ролі, імкнучыся наблізіцца да непаўторнага характару гэтага тыповага прадстаўніка беларускага народа. І сцэнічны вобраз героя-партызана стаў любімым для тысяч і тысяч гледачоў. «Вобраз Талаша, які стварыў А. Ільінскі, нібы асветлены знутры нейкім цёплым, роўным і моцным святлом, святлом розуму і глыбокага пачуцця. З якой сціпласцю і, адначасова, чалавечай годнасцю прымае дзед Талаш выбранне яго камандзірам «партызанскага войска»!» — адзначалася ў адной з шматлікіх тады рэцэнзій на спектакль «У пушчах Палесся» ў Другім БДТ.

Разам з А. Ільінскім поспехам карысталіся і выканаўцы іншых роляў — С. Скальскі (Мартын Рыль), Р. Кашэльнікава (Аўгіння), Ц. Сяргейчык (Саўка Мільгун), П. Малчанаў (Дарвідошка). Сам Якуб Колас гаварыў: «Артыст П. Малчанаў, які выконвае ролю Дарвідошкі, пайшоў далей задуманага мною вобраза. Ён дапаўняе яго характарыстыку, шукае сваіх рысачак для паглыблення гэтага вобраза» («Камунар Магілёўшчыны», 10 красавіка 1938 г.).

Хоць п'есы Якуба Коласа і іх пастаноўкі карысталіся прызнаннем грамадскасці і шырокага гледача, сам пісьменнік ставіўся да сваёй драматургіі надзвычай строга і патрабавальна. Варта, скажам, разгарнуць XI том Збору твораў там, дзе надрукаваны яго артыкулы «За драматургічную крытыку» і «Пра сваю п'есу», каб мы пераканаліся, што яго незадавальняў узровень напісаных ім сцэнічных твораў. Гэта — яшчэ адно сведчанне вялікай сціпласці народнага песняра. Якуб Колас і тут даваў прыклад калегам па пяру, вучыў іх цвяроза і крытычна ацэньваць зробленае на літаратурнай ніве.

Слушна піша даследчык драматургіі Я. Коласа крытык А. Сабалеўскі: «Абедзве драмы («Вайна вайне» і «У пушчах Палесся») вельмі цесна звязаны між сабою. Яны блізкія не толькі па сваёй кампазіцыйнай пабудове, але і па арганізацыі жыццёвага матэрыялу. І героі драмы «Вайна вайне» змагаліся за народную ўладу, за волю, і героі «У пушчах Палесся» абараняюць ад белапольскіх захопнікаў заваёвы мінулых год, заваёвы рэвалюцыі...

...Той параўнальна невялікі астравок, якім уяўляецца ў агромністай літаратурнай спадчыне Коласа драматургія, не губляецца ў цэлым архіпелагу яго твораў. Гэты астравок мае свае выразныя абрысы, непаўторнае аблічча».

Варта дадаць, што цяперашні беларускі тэатр можа і абавязаны даследаваць багацце і хараство таго вострава, які крытык умоўна назваў «вострававам драматургіі Коласа». Пастаўлены ў 1959 годзе спектакль «Навальніца будзе» паводле рамана «На ростанях» прынёс заслужаны поспех трупе тэатра, які носіць імя народнага песняра. Паэт А. Звонак разам з рэжысёрам Ю. Шчарбаковым здолелі перанесці на сцэну самыя істотныя матывы і незабыўныя вобразы такой чароўнай каласаўскай прозы.

Наперадзе — новыя адкрыцці...



Міхась МАШАРА

# ЗАПАВЕТНАЕ

ПЕРШЫ РАЗ я меў шчасце спаткацца з Якубам Коласам у 1939 годзе, у векапомныя дні Народнага сходу ў Беластоку. Пазнаёміў нас Пётр Усцінавіч Броўка.

Востры зрок Якуба Коласа дапытліва, нібы вывучаючы, глядзеў на мяне. Перад такім зрокам нічога не ўтоіш, нічога не схаваеш, нават на самым дне сваёй душы.

Колас сказаў мне многа добрага і ласкавага. Мне, чалавеку, якога сустрэў першы раз у жыцці, выказаў столькі цёплай ласкі і добразычлівасці!

Пасля гэтага, у даваенным Мінску, я не раз сустракаўся з Якубам Коласам пры розных абставінах, найбольш у Саюзе пісьменнікаў. Ён пытаў — чаму мала пішу. Дапамагаў парадамі, як наладзіць жыццё, каб мець магчымасць больш працаваць, як паэту.

— Кожны дзень старайся пісаць хоць некалькі радкоў. Гэта дапаможа застацца на ўзроўні твайму паэтычнаму ўкладу, не дасць запленсець і пакрыцца іржой набытаму майстэрству.

Словы народнага паэта засталіся для мяне запаветным наказам на ўсё жыццё.

Апошні раз бачыў я Коласа перад вайной недзе ў канцы мая або ў пачатку чэрвеня ў Саюзе пісьменнікаў. Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, М. Лынькоў, П. Броўка і іншыя абмяркоўвалі і ўзгаднялі планы мерапрыемстваў па развіцці роднай літаратуры на бліжэйшыя часы.

На такой размове я прысутнічаў упершыню. Мяне здзіўляла і захапляла глыбіня думак і па-дзяржаўнаму шырокія планы літаратурнага жыцця рэспублікі.

Пасля ўз'яднання Беларусі амаль удвая павялічылася насельніцтва рэспублікі. Заходнія вобласці пасля белапанскага гаспадарання былі вельмі адсталыя. Асабліва занядбаным выглядала тут літаратурнае жыццё. Як узмацніць, пашырыць і паглыбіць яго — аб гэтым, пераважна, і гаварылася тут.

Сур'ёзна да гэтых пытанняў ставіўся Канстанцін Міхайлавіч. Яго прапановы і заўвагі выслухоўваліся ўважліва, і амаль заўсёды апошняе слова было за ім.

Праўда, вайна і фашысцкая навала не далі ажыццявіць планы і задумы.

Не ведаю, як іншыя, яшчэ жывыя ўдзельнікі гэтай бяседы помняць яе, у мяне ж яна, з усімі драбязямі, засталася ў памяці на ўсё жыццё.

У час Вялікай Айчыннай вайны сустрэўся я з Коласам нешта ў лютым сорак трэцяга года, калі ён з далёкага Ташкента прыбыў у Маскву, каб спаткацца з кіраўнікамі партызанскіх атрадаў. У гэты прыезд у Маскву Канстанцін Міхайлавіч стаў камуністам. Прымалі яго ў партыю ў пярвічнай арганізацыі газеты «Савецкая Беларусь», якая размяшчалася пад той час у памяшканні рэдакцыі газеты «Известия», на плошчы Пушкіна.

Уступленне ў Камуністычную партыю Якуба Коласа ў час цяжкага выпрабавання для ўсёй нашай Радзімы, калі Беларусь была акупавана фашыстамі і наш народ у тыле ворага ўзнімаў магутны партызанскі рух, для ўсіх нас, пісьменнікаў было вялікай і знамянальнай падзеяй. Якуб Колас гэтым сваім крокам перад усім народам сведчыў сваю адданасць Камуністычнай партыі, нашаму ўраду і ўсяму савецкаму народу. І сам ён нібы ўзмацнеў і памаладзеў, стаў яшчэ больш добрым і ласкавым...

Наступны раз я сустрэўся з Якубам Коласам ужо на кавалачку вызваленай роднай зямлі.

14 сакавіка 1944 года ў Нова-Беліцы, мы, літаратары, хадзілі на вакзал сустракаць яго. Ён прыязджаў тады ў Нова-Беліцу на сесію Вярхоўнага Савета БССР, якая павінна была адбыцца тут, ужо на вызваленай роднай зямлі.

Дэпутаты, што запаўнялі залу пасяджэння, пераважна былі вайсковыя людзі — баявыя афіцэры Савецкай Арміі, з ардэнамі і медалямі на грудзях. Былі дэпутаты і ў цывільным убранні — партыйныя і партызаны з глыбокага варожага тылу. Яшчэ ішла вайна, і недалёка быў фронт, і гэта адчувалася на сесіі ў кожнай дэпутацкай прамове і ва ўсім строгім настроі пасяджэння.

22 сакавіка ў будынку, дзе адбывалася пасяджэнне Вярхоўнага Савета выступіў Якуб Колас. Дэпутаты і госці сустрэлі яго громам апладысментаў і радаснымі воклічамі. Колас, відаць, хваляваўся і быў узрушаны сам у пачатку прамовы. Аднак хутка авалодаў сабой, і прамова загучала ўпэўнена і пераканальна. Перад сесіяй Колас пабываў у Гомелі, убачыў жахлівыя руіны «мёртвага» горада. Наведаў іншыя вызваленыя раёны, мястэчкі і вёскі... Калісь ураджайныя калгасныя палеткі параслі непралазным хмызам. Зямля трэці год аралася не плугам, а бомбамі і снарадамі, засявалася не янтарным важкім зернем, а жалезам куль і асколкаў. Гарады ўсе былі ў руінах, а на вясковых папялішчах буяў чортапалох і пустазелле. Людзі жылі ў падвалах і сляпых зямлянках. Аб гэтым і гаварыў Колас у сваёй прамове. Гаварыў пранікнёна, горача і шчыра, з глыбокім смуткам, з сардэчнай цеплынёй спачування, праклёнам і пякучай нянавісцю да ворага.

Я упэўнены, што ўражанне ад прамовы Якуба Коласа жыве і дагэтуль у сэрцах тых людзей, хто яго слухаў у той час...

Апошняя мая сустрэча з Коласам была нязвыклая. У сакавіку і красавіку 1954 года мы разам знаходзіліся на стацыянарным лячэнні. Я ляжаў моцна хворы запаленнем лёгкіх; Канстанцін Міхайлавіч толькі што перанёс такое ж запаленне. Ачуньваў і ўжо хадзіў.

Тут мне давялося пазнаць яго добрае і чулае сэрца. Пераканаўся, як ён умее адклікацца на чужую нягоду і бяду, як натуральна яму ўласцівасць падтрымліваць людзей і дапамагаць ім.

Першыя два тыдні я ляжаў, як кажуць, аблогам, з высокай тэмпературай у бездапаможным стане. Якуб Колас на некалькі разоў у дзень заходзіў адведаць мяне, сказаць мне пару цёплых слоў, па-бацькоўску пацешыць. Пры кожным выпадку гаварыў з урачамі, як лепш дапамагчы мне, каб хутчэй паставіць на ногі. Часам падоўгу сядзеў у маёй палаце і сваёй гаворкай адцягваў мяне ад хворых думак. А гаварыць, пацешыць чалавека, калі гэта было трэба, ён умеў, як ніхто.

Такі ўжо быў чалавек дзядзька Якуб пад сваім сур'ёзным і сухаватым абліччам — меў у грудзях шчодралюбае сэрца, поўнае дабраты і спагады да людзей.

Раман САБАЛЕНКА

# НАШ БАЦЬКА

ТОЕ ЛЕТА мне нікуды далёка не захацелася ехаць на адпачынак. Паехаў у свае Сабалі, на Брагіншчыну. Люблю гэтыя мясціны, хоць там няма ні лясоў, ні рэчкі і ніякай іншай дачнай выгоды. Люблю за прастор дляназірання і думак, за нейкую ціхую радасць чалавечага быцця.

Праз усё жыццё я люблю і люблю ўставаць разам з сонцам. Вулічныя вокны бацькавай хаты ўглядаюцца акурат туды, дзе з-за бярэзавіцкіх хмызнякоў (Бярэзавік — так у нас завецца сенакоснае ўрочышча) ускочваецца на небасхіл вогненнае сонца.

Вокны бацькавай хаты гэтак густа былі затканы сонечнай пражай, што праз іх не відно было, што дзеецца на вуліцы. Я толькі што ўзняўся і прысеў за стол папрацаваць. Рэпрадуктар быў выключаны. Я не стаў яго ўключаць — пашкадаваў світальную цішыню, кранальную, лагодную.

Раптам чую: бразнулі дзверы хаты. Хто так рана мог прыйсці? — падумалася. Бацька, стары нямоглы чалавек, спаў яшчэ. Расчыніліся дзверы, і ў пакой, у якім я сядзеў за сталом, уляцеў дзядзька Аляксей, хата якога стаяла цераз вуліцу, наўскос бацькавай. Ён быў задыханы, як бы чым спалоханы.

— Ты радыё слухаў? — з парога спытаў ён мяне.

— Не чуў! А што?

— А тое, што ваш бацька памёр.

Я неяк інстынктыўна кінуўся да дзвярэй: паглядзець, як там бацька.

— Ды не гэты твой. А усіхны ваш бацька — Якуб Колас.

Я хуценька падбег да рэпрадуктара, уключыў яго, нібы хацеў тым самым выправіць свой недагляд. Акурат пачалі перадаваць з Палаца культуры прафсаюзаў жалобны рэпартаж.

А я слухаў жалобную музыку па радыё і ў памяці паўставала ўсё тое, што мне давялося чуць пра Канстанціна Міхайлавіча. Як увачавідкі, бачылася ягоная грузнаватая постаць, яго нейкая пахмурнасць, незадаволенасць. Мо гэта было ад старасці?

— Тата, я паеду ў Мінск, — выказаў я сваё жаданне.

— Ты, сынку, не паспееш, — нібы астудзіў маю паспешнасць бацька.

— А я самалётам.

— Самалёт з нашага Брагіна ляціць толькі да Гомеля. А там хто яго ведае, калі другі вылятае ў Мінск. Яно амаль што заўсёды так бывае: калі чалавеку хутка трэба, ён абавязкова спозніцца, — як бы выказаў нейкую безнадзейнасць, асуджанасць бацька. Відно было, стары не хацеў, каб я, не дабыўшы адпачынак, паехаў з вёскі. І я застаўся... Усе дні хадзіў сам не свой. Чаго я толькі не перадумаў?

Я не буду сцвярджаць, што з Коласам быў на кароткай назе. Коласа я ведаў, але, у асноўным, як пісьменніка. Але як чалавека я яго мала ведаў, і пры сустрэчы з ім заўсёды саромеўся. І не набіваўся ў прыяцелі.

...Для мяне, як мо і для ўсіх жыхароў Навагрудчыны, той сакавіцкі дзень быў чаканы і ўрачысты: да нас павінен быў прыехаць на сустрэчу кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч (Якуб Колас). Усюды былі расклеены афішы-плакаты з партрэтам, з біяграфіяй кандыдата. І з кожнай глядзелі трошкі прыжмураныя вочы нашага роднага Якуба Коласа. Усё гэта выклікала ў людзей настрой урачыстасці, асабліва ў моладзі: кожны з маладых людзей вучыўся ці вучыцца ў школе, і можна з пэўнасцю сказаць, што вершы ці апавяданні пісьменніка пакінулі ў душы чалавека немаленькі след. Таму і любоў да Коласа ўсенародная.

А Коласу вунь як хацелася сустрэцца са сваімі людзьмі. Былая Баранавіцкая вобласць была фактычна радзімай народнага паэта: тут ён нарадзіўся, тут прайшло яго дзяцінства, тут, непадалёк, у Нясвіжы ён вучыўся. Адсюль ён выправіўся ў вірлівае жыццё.

Невялічкай групкай мы, калеючы, стаялі на вуліцы перад будынкам баранавіцкай абласной газеты. Тапталіся, штурхаліся, каб сагрэцца. Сакавіцкая цяплыня была яшчэ зманлівая, здрадлівая. Вось-вось павінна прыскочыць Коласава машына. А мы ўжо хукалі на рукі, грэлі тупатнёй ногі, і калі чуўся нават выпадковы сігнал машыны, мы інстынктыўна выструньваліся, як па камандзе. Потым зноў тупацелі. І нават не заўважылі, калі цуг машын спыніўся ля рэдакцыі. Неўзабаве расчыніліся дзверцы адной з машын, і з яе выйшаў Якуб Колас. Ён ішоў да нас. Не адставаў ад паэта і Соцкі, адзін з абласных кіруючых работнікаў. Ён кожнага адрэкамендаваў Коласу.

— А гэта наш мясцовы паэт, — падышоўшы да мяне, сказаў Соцкі.

Колас падаў мне руку, зычліва ўсміхнуўся. Зірнуў на Соцкага і сказаў:

— Гэтага, браток, хлопца я ведаю даўно. — І Канстанцін Міхайлавіч назваў маё імя.

І ўсе, мабыць, у гэтай фамільярнасці Коласавых адносін да мяне ўгледзелі звычайную чалавечую блізкасць.

— Дык хто ў цябе паедзе з намі ў Навагрудак? — запытаўся ў рэдактара Соцкі.

— Паедзе ён! — паказаў вачыма на мяне рэдактар. — Каму ж ехаць, калі не яму!

Я люблю дарогу Баранавічы — Навагрудак. І вось нашы машыны праскочылі ўжо Калпеніцкі пераезд і памчаліся па трошкі віхлястай брукаванцы. На голлі бязлістых дарож-

# НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

Як цяпер, памятаю той дзень. Было гэта ў 1937 ці 1938 годзе. Бацька, які ездзіў па справах у Вільню, вярнуўся з ладным стосікам кніг беларускіх аўтараў, якія падарыў яму адзін знаёмы крамнік. Сярод іх былі «Выбраныя творы» і «Новая зямля» Якуба Коласа.

Чытаць па-беларуску я і шэсць маіх братоў і сясцёр тады не ўмелі, але чароўнае коласаўскае слова запаланіла нашы дзіцячыя душы. Затаіўшы дыханне, мы слухалі суседа Васіля Паберскага. А ён чытаў і чытаў. і карацейшымі рабіліся зімовыя вечары. Роднае слова вяло нас у дзівосны, непаўторны свет.

Так прыйшоў да мяне Якуб Колас. Мой Колас, аўтар апавяданняў «Выстагнаўся», «Малады дубок», «Казак жыцця», якія запалі ў сэрца з маленства.

Потым былі новыя сустрэчы з любімым пісьменнікам. І кожная з іх прыносіла штосьці новае, раней невядомае. Колас-лірык, Колас-публіцыст, Колас-чалавек. Я часта перагортваю старонкі дванаццацітомніка песняра. Працягваюцца сустрэчы з любімымі, знаёмымі героямі, а адчуванне такое, быццам упершыню прыходзіш у гэты свет чараўніка беларускага слова, упершыню ступаеш у краіну хараства.

Такі мой Колас.

М. КОЗЕЛ,
супрацоўнік Мінскага гарадскога радыётрансляцыйнага вузла.

ных прысадаў граў сакавіцкі вецер. А дарога была, як калыханка: то машыны ўзбягалі на гару, то імчаліся ўніз. Я ўспомніў, як увосень ехаў гэтай дарогай. Яна нібы гарэла арабінамі. Восень падпаліла дрэвы, і яны, здавалася, вось-вось паляцяць, як вогненныя прывіды. А от і Гарадзішча. Цяжка разабраць, ці гэта гарадок ці беларускае сяло разлеглася абапал шашы. Адразу нельга было адрозніць раённыя ўстановы: райком партыі, райвыканком. Мы пад'ехалі да раённага Дома культуры. Там ужо, мусіць, ведалі, што прыедзе Якуб Колас. Будыніна аж гула галасамі людзей: то ўспыхвала песня, то заходзіўся гармонік, і нават знадворку чуўся тупат ног.

Мы зайшлі ў нейкую прыбудоўку, дзе ўсім нам знайшлося месца. Мы нішто сабе расселіся. Якуб Колас разгаварыўся. Расказваў жывыя абразкі, бывальшчыны і анекдоты, і цяжка было адрозніць, дзе от толькі што прыдуманае паэтам, а дзе народны анекдот. Шмат чаго, што я пачуў тады з вуснаў Коласа, пасля расказваў і пераказваў сваім слухачам. Аднаго разу нехта з маіх слухачоў сказаў:

— Дык я ж гэта чытаў у творах Коласа.

— Дык гэта ж я не сваё, а Коласава і пераказваў! — рабілася мне радасна і прыемна, што творчасць нашага паэта сапраўды народная не толькі таму, што паэт носіць гэтае ганаровае званне, а па самой сваёй сутнасці: яна як бы выйшла з гушчыні народнага жыцця і зноў пайшла ў народ.

У Навагрудак мы прыехалі ўжо ў другой палове дня.

Ехалі непадалёк ад Міцкевічавага Завосся. Вочы Якуба Коласа аж свяціліся любасцю. Здавалася, ён імкнуўся да тае зямлі, да тых дарог, па якіх калісь хадзіў вялікі Міцкевіч. А калі праязджалі паўз возера Свіцязь, стары, здаецца, не мог на месцы ўседзець.

— Глядзі! Глядзі! — крануў за плячо Якуб Колас свайго сакратара і паплечніка Максіма Лужаніна.

— А што там? — спытаў Лужанін.

— Цяпер там лёд, а ўлетку, кажуць, па возеры ходзяць Міцкевічавы свіцязянкі.

Максім усміхнуўся сам сабе, зірнуў на Коласа і сказаў:

— Няхай ходзяць.

— От каб скінуць з плячэй гадоў пятнаццаць — дваццаць, хатылёк бы за плечы і пайшоў бы. Чорт бы мяне ўтрымаў у тым Мінску. Паглядзеў бы, як цяпер людзі жывуць. Паказаў бы сябе...

У Навагрудак машыны ўскочылі нечакана. Праехалі паўз руіны старога замчышча, паўз Міцкевічаў курган, паўз магазіны і склады і сталі перад дзвярыма раённага Дома культуры. Людзей на плошчы было, як у кірмашовы дзень.

— Колас прыехаў!

— Колас прыехаў! — паляцела па ўсім Навагрудку вестка.

А на тратуары-памосце перад дзвярыма раённага Дома культуры сталі першы сакратар райкома партыі Грыневіч і кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР Герой Сацыялістычнай Працы знатная льнаводка Ганна Трафімаўна Кумец. Крысо яе зімовага паліто было трошкі адтулена так, што на грудзях жанчыны віднелася залатая зорка. Яна быццам гарэла, свяцілася, як самацвет. І Колас, выйшаўшы з машыны, пайшоў на святло тае зоркі...

А клуб, здаецца, аж стагнаў ад наведвальнікаў.

Першым выйшаў на сцэну сакратар Навагрудскага райкома партыі тав. Грыневіч. Гаварыў пра Якуба Коласа, як пра даўняга знаёмага і блізкага чалавека...

А Колас з добрай чалавечай зычлівасцю і з прэзідыума кідаў і кідаў позірк на Ганну Трафімаўну Кумец. Відаць, ён бы з большай ахвотай сёння, сказаў бы не пра сябе, а пра гэтую жанчыну, якая не праходзіла ні інстытутаў, ні універсітэтаў і якую ўзняла на вяршыню славы Праца.

Якуб Колас гэтак задумаўся, што ледзьве пачуў, калі яму далі слова. Паволі ён падышоў да трыбуны і пачаў гаварыць:

«Дарагія таварышы, мае землякі, мае выбаршчыкі! Я выступаю перад вамі з пачуццём глыбокага хвалявання. Вялікі і цяжкі шлях пройдзены намі. Больш дваццаці год беларускі народ быў падзелены на дзве часткі. Мы ведалі, як цяжка вам жылося пры панскай Польшчы, як прыгняталі паны беларускі народ».

У заключэнне паэт з хваляваннем выгукнуў:

— Няхай жыве наша родная Савецкая Беларусь!

Зала загрымела воплескамі. Здавалася, што гэтым воплескам не будзе і канца. Урачыстая радасць аж падымала людзей з крэслаў.

То былі дні радаснага хвалявання для народнага паэта, для ўсіх нас, хто быў з ім поруч.

## ГОД 1936. ЛЁЗНА

У 1934 годзе ў кнігарнях Беларусі з'явілася цудоўная навінка—«Дрыгва» Якуба Коласа. Усе, хто паспеў набыць і прачытаць кнігу, былі захоплены ёю. Невялікая колькасць экземпляраў «Дрыгвы» трапіла ў раённы цэнтр Лёзна Віцебскай вобласці, дзе я тады працаваў рэдактарам раённай газеты «Ленінскі сцяг». Вялікі попыт на кнігу не быў задаволены. Да нас у рэдакцыю пачалі прыходзіць пісьмы ад калгаснікаў з просьбамі памагчы набыць яе. Паколькі завезці ў раён больш кніг не было магчымасці, мы, параіўшыся ў раённым камітэце партыі, вырашылі арганізаваць ва ўсіх калгасах, саўгасах і на прамысловых прадпрыемствах раёна калектыўнае чытанне аповесці.

Потым у Лёзна адбылася раённая канферэнцыя чытачоў «Дрыгвы». У канферэнцыі прыняло ўдзел да 500 чалавек. Цікавасць да кнігі і яе аўтара была такая вялікая, што калгаснікі на падводах прыехалі за 25—30 кіламетраў з далёкіх сельсаветаў. На гэтай канферэнцыі прысутнічаў і аўтар.

Як толькі Канстанцін Міхайлавіч з'явіўся за сталом прэзідыума канферэнцыі, усе прысутныя ўзняліся з месц, грамавымі апладысментамі і радаснымі воклічамі віталі аўтара «Дрыгвы».

Колас усміхаўся ў свае прыгожыя, ледзь падстрыжаныя вусы. Яго вочы выпраменьвалі радасць, выказвалі пачуццё ўдзячнасці народу за такі цёплы і радасны прыём.

Мне, як арганізатару калектыўнага чытання кнігі «Дрыгва», было даручана адкрыць канферэнцыю чытачоў і вітаць Канстанціна Міхайлавіча на лёзненскай зямлі.

Пасля майго кароткага выступлення-прывітання слова было дадзена Канстанціну Міхайлавічу. Пісьменнік устаў з-за стала прэзідыума, падышоў да трыбуны і роўным, спакойным голасам сказаў:

— Сардэчна вітаю вас, дарагія мае чытачы! Дзякую ўсім вам, прысутным тут, а таксама раённаму камітэту партыі і выканкому раённага Савета дэпутатаў працоўных за арганізацыю калектыўнай чыткі маёй кнігі «Дрыгва», за скліканне гэтай канферэнцыі і запрашэнне мяне. Я рады гэтай шматлюднай сустрэчы, рады пагаварыць з вамі аб маёй рабоце над гэтай кнігай, а разам з тым выслухаць вашу думку аб кнізе, вашы заўвагі па ёй і прапановы на маю будучую работу.

Канстанцін Міхайлавіч проста і душэўна адказаў на ўсе пытанні чытачоў, падзякаваў за крытычныя заўвагі па кнізе, абяцаў больш пісаць добрых кніг аб гераічных справах нашых людзей. У пасляваенныя гады мне неаднаразова даводзілася сустракацца з ім, гутарыць і слухаць яго прамовы на вялікіх форумах. Я заўсёды захапляўся гэтым выдатным таленавітым грамадска-палітычным дзеячом, непераўзыдзеным майстрам пяра. Разумны, працавіты, па-бацькоўску ласкавы—такім заўсёды застаўся ў маёй памяці Канстанцін Міхайлавіч.

Г. МІНЧУКОЎ.




Вокладкі кніг Якуба Коласа на мовах народаў СССР.

Максім ЛУЖАНІН

# СОН У САНАТОРЫІ «НЯСВІЖ»

У даўнім замку Радзівіла,
Дзе восень дыхала з муроў,
Мяне гарачка паваліла
І не ўцякла ад дактароў.

Тады, праз ласку гэтай цёткі,
Паміж трызнёй і забыццём,
Я сівых сцен выслухваў плёткі,
Быў старасветчыны гасцём.

Бляшаны круг каціла поўня
На здзірванелыя валы...
Здалося мне, ў палацы поўна
Яго насельнікаў былых.

Пазнаў адразу, толькі глянуў, —
Як дама трэф між дробных карт,
Княгіня з роду Каштэлянуў,
Што насадзіла дольны парк.

Князі, хто ў цёмных сутарэннях
Знайшоў касцяж надзейны спрат,
Жывыя на́шчадкі з прагненнем,
Каб спадкі адхапіць назад.

На залу біў агонь каміна,
Быў стол накрыт на сто персон,
Пры ім — не ў крэсле — на драбінах
Сядзеў знаёмы нехта...
Ён!

У самай плыні аксамітаў,
Што з танцу ў танец гнаў габой,
Драмаў знябыты, абабіты,
Канёк з адвешанай губой.

Але — яздок!
На твары веліч,
Нібы гасціць у панства звык,
Слуга князёў, Міхал Міцкевіч,
З-пад Мікалаўшчыны ляснік.

Яго падступна падбівалі:
— Міхал! Пакінь ты нам хлапца...
І частавалі, падлівалі,
І падкладалі без канца.

Хоць чарку мог ён добра лыкаць,
Не расшчапіў замкнёных губ:
Каля драбін стаяў Музы́ка —
Ці то Сымон, ці то Якуб.

— Ты чуеш гэтую катрынку? —
Міхал паскардзіўся яму: —
А ну іх к ліху! Едзьма, сынку, —
У Стоўбцах зойдзем у карчму.

Згас княжы вензель на балконе,
Растала ўсё — і шум, і сквіл.
І пацягнуў калёсы конік
У прадсвітальны небасхіл.

Абілі лапці, пыл абтрэслі,
Каб больш не ліп да ног паркет.
І з губ хлапца зляцела песня,
Якою абагрэўся свет.



# З ДАЛЁКІХ ГАДОЎ МАЛЕНСТВА

М. ГАНЧАРЫК

У ПАЧАТКУ гэтага стагоддзя наша вёска Кляннік, упершыся ў лясы і балоты на мяжы Ігуменшчыны з Барысаўскім паветам, жыла ціха, спакойна. У вёсцы многія галадалі, сядзелі без хлеба, а каб пакарміць жывёліну, да самых лат абдзіралі саламяныя стрэхі.

З пагардай адносіліся да мужыкоў паны і падпанкі: «Што з яго возьмеш, цёмны мужык». Не лепш гаварылі яны і аб нашай беларускай мове. Ды і кніжак беларускіх мы тады не бачылі. А першае знаёмства з адной з іх адбылося вось так.

Было гэта ў пачатку 1907 года. Мой хросны бацька быў абраны за старасту нашай вёскі і з гэтай прычыны часта наведваў воласць і адтуль прыносіў заўжды шмат усякіх навін. Прынёс ён і на гэты раз невялікую памерам газетку:

— Нейкая дзіўная, бо вельмі ўжо з яе смяяліся пісар са сваім памочнікам, — сказаў ён, перадаючы газету майму бацьку. — Вось, можа, паглядзіце, ды і пачытаеце. Баяць, што гэта нейкая мужыцкая, якую выпісваў, мабыць, настаўнік, што кароткі час настаўнічаў у Верхмені.

І калі ўвечары, дагледзеўшы скаціну і выканаўшы іншую работу, уся сям'я сабралася ў хаце, а на комінку ярка запалалі смалякі, старэйшы брат Алесь узяў у рукі гэтую газету і пачаў чытаць.

І вось — цуд! Газетка напісана простай нашай моваі. Гэта было нешта неверагоднае... Наша, сялянская мова, якой усе грэбавалі, з якой смяяліся — і гэта мова ў друкаванай газеце! Ды і пішуць у газеце аб мужыцкай долі, аб цяжкім жыцці сялянства. Звалася яна — «Наша ніва».

Прачыталі тады і верш нейкага Якуба Коласа, які ўсім вельмі спадабаўся — відаць, той аўтар такі ж мужык, як і ўсе тут.

Не адзін вечар чыталася і перачытвалася гэтая газета з вершам Якуба Коласа. Блізкія і далёкія суседзі, прыходзячы да нас у вольны вячэрні час з вялікай цікавасцю слухалі ўпершыню беларускае друкаванае слова. Гэта было і маё першае завочнае знаёмства з беларускім пісьменнікам Якубам Коласам. Нумар «Нашай нівы», які выпадкова, але дзякуючы Якубу Коласу (як потым выявілася, гэта ён выпісаў яе ў Верхмень), трапіў у нашу сям'ю, нашу вёску, дазволіў усвядоміць нам нашу людскую вартасць і нацыянальную свядомасць.

У 1907 годзе ўвосень я пайшоў у пачатковую школу, якую толькі што адкрыла земства ў вёсцы. Чытаць і лічыць я ўжо добра навучыўся ад брата і сясцёр, якія скончылі Верхменскую пачатковую школу. Па заканчэнні пачатковай школкі, у 1910 годзе, мяне аддалі на далейшае навучанне ў Ігуменскае вышэйша-пачатковае вучылішча. Пачынаючы з 1908 года, у нашай хаце пачалі з'яўляцца кніжкі на беларускай мове, а з 1911 года старэйшы брат Алесь угаварыў бацьку выпісваць і газету «Наша ніва». Маё завочнае знаёмства з Якубам Коласам пашыралася. Мы ўжо мелі яго кніжачкі «Нёманаў дар», «Тоўстае палена», а ў хуткім часе і невялікі памерамі зборнічак вершаў пад назвай «Песні жальбы».

Не прасіце, не пытайце
Светлых песень у мяне,
Бо як песню заспяваю
Жаль усю душу скалыхне...

Мы ўжо ведалі, што Тарас Гушча і Якуб Колас гэта адзін і той жа чалавек, але калі пішучы апавяданні, дык падпісвае іх Тарас Гушча. Неўзабаве ў нас у хаце з'явіўся і невялічкі зборнічак у чырвонай вокладцы «Апавяданні» Тараса Гушчы. Некаторыя, напрыклад, «Пісаравы імяніны», напісаны пра нашых верхменскіх — пісара, урадніка, дзяка і іншых «інтэлігентаў».

Здаецца, на другім годзе маёй вучобы ў Ігумене, пасля зімовых канікулаў я выпрасіў у старэйшага брата Алеся даць мне з сабой кніжачку Якуба Коласа «Песні жальбы». Нярэдка ў вольны час, закончыўшы падрыхтоўку ўрокаў, я са стрыечным братам Валодзем чыталі і перачытвалі цудоўныя вершыкі.

Надыходзілі вялікодныя канікулы. Увайшло ў звычку, што ў апошні дзень настаўнікі ўрокаў не вялі, а праводзілі гутаркі ці чыталі цікавыя кніжкі. Я ўзяў з сабой у школу зборнічак Якуба Коласа. Да пачатку заняткаў кніжку паказаў суседу па парце, і яна пайшла з рук у рукі. Беларуская кніжка была для вучняў навінкай. Некаторыя спрабавалі чытаць, але атрымлівалася нескладна. Пачуўся званок, і ў клас увайшоў інспектар, бо гэта быў яго ўрок.

Дазволіўшы вучням сесці, ён запытаўся:

— Можа ў каго-небудзь ёсць што для чытання?

Адзін з вучняў прапанаваў «Песні жальбы». Інспектар прагледзеў тытульны ліст, перагарнуў некалькі старонак і твар яго зрабіўся нейкі барвовы ад злосці:

— Чыя гэта кніга? Хто яе прынёс сюды? — пагрозліва звярнуўся ён да класа. Бачачы, якое ўражанне зрабіла на яго кніжка, усе маўчалі, а вучань, які падаў яе, адказаў:

— Не ведаю, хто прынёс, хадзіла тут па руках, дык я і прапанаваў яе вам.

— Кніжка канфіскуецца і будзе вернута толькі па просьбе бацькоў, — падсумаваў інспектар.

Цяжка перажываў я страту любімай кніжкі. Праўда, брат пра яе не напомніў.

Вярнуўшыся пасля канікулаў на вучобу, мне трэба было ўнесці плату за навучанне за другую палову года. Пасля ўрокаў чародка вучняў зайшла ў канцылярыю, якая знаходзілася насупраць кватэры інспектара. У правым кутку канцылярыі за сталом сядзеў інспектар і прымаў ад нас грошы. Зайшоўшы ў канцылярыю, я паглядзеў, куды б мне пакласці кніжкі, якія былі са мной, і завярнуў да стала, што стаяў у левым кутку пакоя. І тут раптам убачыў, што на версе стосіка школьных журналаў ляжаць мае «Песні жальбы»! Я хуценька, непрыкметна накрыў яе сваімі кніжкамі, аддаў грошы інспектару і — за дзверы... У маіх руках разам з кніжкамі быў і ўратаваны зборнічак Якуба Коласа. Радасці не было мяжы...

Пад уплывам коласаўскай жыватворнай паэзіі я нават сам прыкладна ў 12 гадоў пачаў пісаць вершы на беларускай мове. Былі яны вельмі простыя і прымітыўныя. Але два з іх былі ўсё ж надрукаваны ў майскіх нумарах «Нашай нівы» за 1914 год.

Убачыць Якуба Коласа мне пашчасціла толькі ў 1917 годзе...

# РОДНЫ КУТ

МНЕ ТОЛЬКІ раз давялося бачыць Якуба Коласа. Было гэта ў 1952 годзе.

Сціплая аб'ява паведамляла, што адбудзецца сустрэча студэнтаў і выкладчыкаў Беларускага універсітэта і Мінскага педінстытута з народным песняром, прысвечаная яго 70-годдзю.

Хоць мы прыйшлі загадзя, месцаў амаль не заставалася. (Многія на той вечар так і не трапілі). Селі ў далёкіх радах. Затое ў нас была адна перавага: адсюль, з высокіх ярусаў, што падняліся амаль да столі, сцэну было відаць, як на далоні.

Якуб Колас ішоў павольі ў суправаджэнні тых, хто павінен быў заняць месца ў прэзідыуме.

Усе ўсталі. Апладзіравалі доўга. Усміхаліся. Усміхаўся і Якуб Колас, стоячы за сталом. Усміхаўся той харошай коласаўскай усмешкай, якая была так знаёма па фотаздымках, кінафільмах.

Прамоўцы сказалі юбіляру цёплыя словы. Надзвычай усхвалявана выступіў прафесар І. В. Гутараў. Колас расчуліўся, і яны з Гутаравым абняліся. А зала адказала апладысментамі.

Паэты чыталі творы, прысвечаныя юбіляру.

Выступленне народнага песняра зала сустрэла з энтузіязмам.

Мінула дваццаць год, а я выразна бачу тую залітую яркім святлом залу, чую гром апладысментаў. І ў гэтым святле, у гэтых апладысментах — Якуб Колас — расчулены, крыху збянтэжаны ўвагай моладзі.

Журналісцкі лёс аказаўся схільны да мяне: Стаўбцоўскі раён, радзіма песняра, трапіў у зону майго карэспандэнцкага абслугоўвання. І я пастараўся пры першай магчымасці наведаць Мікалаеўшчыну.

...Мінулі доўгія вуліцы. У лесе дарога стала трасучай, грузавік падскокваў на карэннях і выбоінах. Пацягнула смалістай сасной. Вось і Азярцо. Пасля траскай дарогі і вуркатання матора тут было на дзіва ціха. У той год лета выдалася дажджлівым, і Азярцо напоўнілася да краёў. У некаторых, ніжэйшых месцах вада выйшла з берагоў, затапіла лес, які падступіў з усіх бакоў, і беленькія бярозкі паласкалі ў ёй тонкія ногі.

Мы абышлі вакол Азярца. Лес. Неба. І цішыня. І чысцюткае вільготнае паветра. І надвячоркавая прахалода.

Незабыўны малюнак!

Праз колькі часу я зноў сабраўся ў «Радзіму Я. Коласа». Аўтобус папаўся стары і маленькі. Гарачыня за трыццаць, якую шчодра падліваў у яго ліпеньскі поўдзень, дапаўнялася духатой, бо вокны былі зачыненыя. У дадатак праз незлічоныя дзіркі ў ніжняй частцы гэтай «скрыпкі на колах» тугімі струменямі прабіваўся сівы пыл. І ўсе мы, пасажыры, былі як работнікі каля малатарні: успацелыя і запыленыя.

Жанкі адна перад другой клялі такую паездку. І раптам спакойны, нават, здаецца, звонкі голас:

— Эх, рабяткі! Раней вы пешшу ішлі са Стаўбцоў, а цяпер вось едзеце, ды ўсё яшчэ незадаволены. Не ўсё ж адразу. Будуць скора і па гэтай

КОЛАСАЎСКІМІ СЦЕЖКАМІ КОЛАСАЎСКІМІ СЦЕЖКАМІ

# СЛУЧЧАНЕ ЯМУ

У СВАІХ ТВОРАХ Якуб Колас з павагай і цеплынёй гаворыць аб Случчыне. Успомнім з трылогіі «На ростанях» сцэну сустрэчы Лабановіча з Турсевічам: «Якія-небудзь дваццаць вёрст раздзяляе нашы месцы, а якая розніца! Тут зусім іншае: не той выгляд прыроды... Ніяк, брат, няможна раўняць Случчыну з Піншчынаю. І дзеці ў школе не тыя. У іх больш сардэчнасці... чалавечнасці...»

Лабановіч і Турсевіч аглядаюць старэнькую капліцу. Пісьменнік заўважае: «Яшчэ і цяпер па глухіх кутках Случчыны, напэўна, захаваліся такія капліцкі». Гэтыя словы пісаліся ў 1921—1922 гг.

Вядома, што бацька пісьменніка і яго дзядзька прыязджалі ў вёску Смольгава купляць зямлю. Гэты факт знайшоў адлюстраванне і ў назве раздзела паэмы «Новая зямля».

Якуб Колас адным з першых у беларускай літаратуры стварыў цікавы і праўдзівы вобраз слуцкага селяніна. Я маю на ўвазе Хвядоса Хадыку з паэмы «Новая зямля», дарэчы, намаляванага з добрым гумарам, а не ў адмоўна-сатырычным плане, як сцвярджаюць.

Калі Міхал з Антосем заехалі да Хадыкі ў двор, ён не без гонару кажа:

Сюды, сюды, кірыйся, браце:
І месца будзе й корму хваце.
Там за аўсянымі снапамі —
Ядзяць іх мухі з камарамі —
Ляжыць і кошанка і віка —
Не агалеў яшчэ Хадыка.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Якуб Колас двойчы (у 1921 і ў 1923 гг.) працаваў выкладчыкам на настаўніцкіх курсах у Слуцку. Захаваліся фотаздымкі, пісьмы Коласа са Слуцка сваёй жонцы, успаміны тых, хто вучыўся на курсах, выкладаў на іх.

Курсы працавалі ў будынку былой кальвінскай гімназіі (цяпер СШ № 1 г. Слуцка) — старэйшай школы ў Беларусі (сёлета школа пачала 355-ы навучальны год). Жыў Я. Колас у Слуцку і ў вёсцы Новы Двор. Пісьмы Коласа і ўспаміны былога выкладчыка курсаў Язэпа Дылы сведчаць, што тыя дні, якія правёў Колас у нашым горадзе, былі насычаны педагагічнай і грамадскай працай, сустрэчамі з цікавымі людзьмі.

Па вечарах у актавай зале былой гімназіі Я. Колас чытаў курсантам паэму «Новая зямля» Я. Дыла (Бываеўскі Назар, Тодар Кулеша—

КОЛАСАЎСКІМІ СЦЕЖКАМІ КОЛАСАЎСКІМІ СЦЕЖКАМІ

# ЯКУБ КОЛАС

СТУДЗЕНЬСКІМ ранкам 1908 года ў вёску Сані прыехаў малады настаўнік. І ўжо на другі дзень дарослыя і дзеці ведалі яго прозвішча — Міцкевіч. І паважна называлі — Канстанцін Міхайлавіч.

Абедзве вёскі выглядалі не дужа прывабна. І ўсё ж малады настаўнік убачыў у іх і ў сялянах нешта такое, чаго не маглі ўбачыць і адчуць тутэйшыя багацеі. Ён убачыў чалавечую годнасць і будучыню простых беларускіх мужыкоў.

І дзеля гэтай будучыні выкладаў у школе, якой было суджана стаць амаль ці не першай беларускай школай у нашым краі.

Па тагачасным адміністрацыйным дзяленні вёска Сані адносілася да Сенненскага павета. Побач знаходзіліся вёскі Пяпоўка і Плоскае. А скрозь былі лясы і лясы.

Па ўспамінах сялян, малады настаўнік апранаўся проста, хадзіў пехатою, любіў пасядзець са старымі, пагаварыць пра сялянскую нядолю.

Зімовымі вечарамі, праверыўшы вучнёўскія сшыткі, пісаў вершы, і, як сведчаць даты пад радкамі, тут было напісана нямала.

Так лёс звязаў з нашым краем выдатнага народнага песняра. Цяпер усе тры вёскі знаходзяцца ў межах Талачынскага раёна, а Плоскае — цэнтральная сядзіба калгаса імя Якуба Коласа, дзе цяпер робіцца многае для ўшанавання памяці народнага песняра.

Не раз успамінаў аб тых незабыўных днях сам паэт. Нават некалькі радкоў запісаў аб гэтым у сваёй аўтабіяграфіі. Але пабываць потым на Віцебшчыне доўга не мог.

Прайшлі гады. Змянілася абліччa нашага краю. І зноў лёс звязаў з Віцебшчынай Якуба Коласа.

5 студзеня 1927 года ў будынку Віцебскага тэатра было наладжана ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 20-годдзю творчай дзейнасці Якуба Коласа. Ён прысутнічаў на вечары і выступіў з прамовай, аб чым паведамляла газета «Зара Захаду».

Сардэчна сустрэлі песняра віцебскія чыгуначнікі. На літаратурным вечары ён чытаў вершы і расказваў аб маладой беларускай літаратуры. Сустрэчы з віцяблянамі мелі значэнне і для самога паэта, які ўбачыў сваіх герояў за натхнёнай стваральнай працай.

Наведванні Віцебшчыны сталі часцейшыя пасля 1935 года, калі Янка Купала пабудаваў дачу ў Ляўках. Якуб Колас часта прыязджаў сюды і ў сваіх успамінах з заміланаваннем пісаў пра яркі куток зямлі нашага краю.

У красавіку 1936 года ў складзе пісьменніцкай брыгады ён зноў наведваў Віцебшчыну. Паэт прысутнічае на раённай канферэнцыі калгаснікаў у Лёзна.

Тут чытачы зацікаўле-

дарозе людскія аўтобусы хадзіць.

Я азірнуўся, шукаючы таго, хто так спакойна і самымі звычайнымі словамі сцішыў крыкуноў. Убачыў пажылога чалавека з нейкім асаблівым, прывабным бляскам вачэй. Ён глянуў на мяне і ўсміхнуўся. Я таксама ўсмешкай адказаў яму і, дзіўна, адчуў, што мы — быццам бы даўно-даўно знаёмыя. Дзе ж я яго сустракаў?

А дзядзька тым часам звярнуўся да хлопца, які разваліўся на пярэднім сядзенні. І голас яго быў такі ж спакойны, толькі адчуваліся гнеўныя ноткі:

— І як табе, чалавеча, не сорамна? Гэта ж кабета, з малым на руках, ледзь стаіць у такой штурханіне, а ты сядзіш — і хоць бы што.

Хлопец даў месца жанчыне. А дзядзька зноў глянуў на мяне, нібы просячы прабачэння: нічога не зробіш, трапляецца і такая нявыхаванасць.

— Кнотаўшчына, —аб'явіў шафёр.

Я выйшаў, выбіў аб слуп пыл з пінжака і накіраваўся ў калгасную кантору. Там вырашыў з аграномам карэспандэнцкія справы. І ён, прапанаваў мне свае паслугі.

— У Смольні не былі? О, абавязкова трэба наведацца.

Добрыя, шчырыя людзі — як яны хочуць паказаць прыезджым Коласаву зямлю! Хочуць таму, што самі бязмежна любяць яе.

Мы асядлалі матацыклы, перасягнулі той самай пясчанай дарогай сярод жыта, прагрымелі дошкамі на мосце праз Нёман, праскочылі рэдзенькім хмызняком, мінулі чараду соснаў — і апынуліся на двары сядзібы. Насустрач нам падняўся з муражнай травы гаспадар... Ды гэта ж той дзядзька, з якім я ехаў у аўтобусе!

— Знаёмцеся, — сказаў аграном. — Брат Якуба Коласа, дзядзька Юзік.

Дзядзька Юзік, падаючы руку, шырока ўсміхнуўся.

У Смольні я правёў некалькі гадзін. Агледзеў хату, у якой жыў народны пясняр. Падзівіўся на магутную раскідзістую ліпу ў двары, якая чула задушэўную гутарку Якуба Коласа і Янкі Купалы ў час іх першай сустрэчы, калі малады Янка пешшу прыйшоў сюды са Стаўбцоў.

Тады я падумаў пра Іосіфа Міхайлавіча: «Інтэлігентны чалавек». Так і нататку пра нашу сустрэчу назваў. Мяне ўразіла яго эрудыцыя, арыгінальны падыход да твораў брата, ён ведаў, адкуль паявіліся ўсе іх вобразы, дэталі. Кранула яго ўвага да кабеты з дзіцем. Спадабалася ўменне правільна ацаніць паводзіны, сказаць чалавеку праўду ў вочы, знайсці пры гэтым такое простае слова, ад якога той, усвядоміўшы няправільнасць свайго ўчынку, становіцца крышачку лепшым. Ці не «сямейныя» гэтыя дабрата і строгасць да людзей? Яны ж былі ўласцівы Якубу Коласу.

...Усюды на Коласавай зямлі бачны яго сляды. У апетых ім мясцінах — Альбуці, Азярцы, Ластку, Свержанскай градзе... У філіяле музея ў Смольні, у школьным музеі. У назве школьнага літаб'яднання «Маладыя каласкі». Ва ўспамінах людзей, якія яго памятаюць.

**М. ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**КОЛАСАЎСКІМІ СЦЕЖКАМІ — КОЛАСАЎСКІМІ СЦЕЖКАМІ**

# ЎДЗЯЧНЫЯ...

яго псеўданімы) ў пісьме да аўтара гэтых радкоў пісаў 25 жніўня 1967 года: «Настаўніцкія курсы беларусазнаўства ў Слуцку... Мы з Коласам былі камандзіраваны на іх. Ён чытаў курс выкладання беларускай мовы, а вечарамі па маёй дарадзе чытаў свой твор «Новая зямля», яшчэ тады ненадрукаваны. Мы сустрэлі халодныя і варожыя адносіны тых элементаў, якіх не задавальняла беларусізацыя школы...

Але моц мастацкага твора Я. Коласа заўважалася. Я не памыліўся, калі радзіў біць ідэйных ворагаў сілаю мастацкага слова. І што цікава — калі прайшло некалькі дзён, «Новая зямля» заваявала, бадай, усю аўдыторыю і ўсякі раз, як Якуб Колас канчаў частку твора, раздаваліся гарачыя апладысменты».

Жыхар горада Слуцка Лука Трафімавіч Трухан (памёр некалькі месяцаў назад на 86-м годзе жыцця) расказваў мне, што ў 1923 годзе ён ехаў са Слуцка ў Мінск у адным вагоне з Я. Коласам і той усю дарогу чытаў раздзелы з «Новай зямлі» пасажырам-папутнікам.

Дзейнасць Я. Коласа ў Слуцку як прапагандыста лепшых здабыткаў беларускай літаратуры яшчэ, на жаль, не вывучана.

Аднойчы Якуб Колас пабыў на кватэры ў дырэктара курсаў Сяргея Антонавіча Бярозкі. Вось што ён пісаў пра гэта ў пісьме да жонкі: «У яго (у Бярозкі С. А.—**Р. Р.**) двое дзяцей. Сыну гадоў 17... Сын незвычайна даравіты хлопец. Навейшую расейскую літаратуру ведае, як прафесар, разважае па-прафесарску. Незвычайна начытаны, мае фенаменальную памяць: яму досыць прачытаць падручнік па хіміі старонак на 200, і ён будзе помніць усе формулы... Піша вельмі таленавітыя расейскія вершы, пераймае крыху Блока, Брусава... Хлопец хваравіты... Тыдні праз два думае ехаць з маткаю ў Маскву. Калі я пазіраў на гэтага юнака, то мне чамусь напомніў ён Максіма Багдановіча, і сваёю інтэлігентнасцю, і сваёю паэзіяй. Не хацелася б, каб і ў далейшым было гэта іх падабенства»...

Георгій Бярозка цяпер вядомы пісьменнік.

У нас на Случчыне ўдзячны Коласу за тое, што ён любіў нашу зямлю, цёпла пісаў аб яе людзях і клапаціўся аб іх.

**Рыгор РОДЧАНКА,**
настаўнік.
г. Слуцк.

**КОЛАСАЎСКІМІ СЦЕЖКАМІ — КОЛАСАЎСКІМІ СЦЕЖКАМІ**

# НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

на абмяркоўвалі яго аповесць «Дрыгва».

Па просьбе калектыву тэатра ў той жа прыезд Якуб Колас прачытаў урыўкі з п'есы «Вайна вайне». Артыстам да спадобы прыйшлося дзеянне п'есы, яе яркія жыццёвыя вобразы. І п'еса была прынята да пастаноўкі.

У студзені наступнага года Колас прысутнічае ўжо на прэм'еры спектакля «Вайна вайне», які горача сустрэлі віцябляне.

Асабліва вялікі поспех выпаў на долю Цімоха Мікалаевіча Сяргейчыка ў ролі Дзеда Мікіты. Гэта быў глыбокі вобраз, які сведчыў аб веданні артыстам эпохі і жыцця, адлюстраваных у п'есе.

Некалькі разоў пабыў у тыя гады пясняр на Асінторфе, сустракаўся з будаўнікамі і прысвяціў ім шчырыя сардэчныя радкі.

А коласаўскі тэатр, акрылёны поспехам, марыў пра новыя сумесныя работы. І Якуб Колас адгукнуўся на просьбу тэатра згодай і стварыў п'есу па матывах сваёй аповесці «Дрыгва».

Спектакль «У пушчах Палесся», пастаўлены ў гонар святкавання 20-й гадавіны Кастрычніка, зноў з захапленнем глядзелі віцябляне. На прэм'еры 6 лістапада прысутнічаў аўтар.

Надоўга застаўся ў сэрцах гледача вобраз дзеда Талаша, створаны Канстанцінам Аляксандравічам Ільінскім. У выкананні Ільінскага Талаш паўстаў як патрыёт Радзімы і храбры воін, па-майстэрску выявіў акцёр жыццёвы розум свайго героя, кемлівасць, гумар, аптымізм.

Дружба народнага песняра і народнага артыста захавалася на доўгія гады. І аб ёй неаднойчы расказваў Ільінскі сваім паплечнікам і больш маладзейшым сябрам, наведваючы музей Коласа ў Мінску.

З вялікай радасцю і гордасцю сустрэў калектыў тэатра рашэнне ўрада БССР аб прысваенні яму імя Якуба Коласа.

22 жніўня 1942 года Якуб Колас выступіў з чытаннем па радыё верша, прысвечанага Бацьку Мінаю. А потым верш быў перапраўлены за лінію фронту да легендарнага камбрыга. Праз некалькі месяцаў яны абодва сустрэліся ў Маскве, куды Шмыроў быў выкліканы для ўручэння ўрадавай узнагароды.

Якуб Колас першы праславіў у вершах мужнасць легендарнага Міная. Творы паэта натхнялі на подзвігі партызан Прыдзвінскіх лясоў.

А пасля вайны калектыў Аршанскага паравознага дэпо, дзе было многа паплечнікаў другога легендарнага героя — Заслонава, выбраў паэта сваім пасланцом у вышэйшы орган рэспублікі — Вярхоўны Савет БССР.

**Давід СІМАНОВІЧ.**





Бакавыя скульптуры помніка Якубу Коласу.

Фота Ул. КРУКА.

# ХТО ЁН, ЯНКА ТУКАЛА?

У ТРЫЛОГІІ «На ростанях» асаблівую цікаўнасць выклікаюць тры асноўныя персанажы, сябры па семінарыі: Андрэй Лабановіч, Алесь Садовіч і Янка Тукала. Кожны з іх мае свайго прататыпа.

Андрэй Лабановіч, як вядома, мае многія аўтабіяграфічныя рысы Якуба Коласа. Вобраз Алеся Садовіча напісаны з Аляксандра Сянкевіча, які родам з Мікалаеўшчыны.

Аляксандр Сянкевіч — выдатны дзеяч свайго часу. Ён быў урачом на Далёкім Усходзе ў часы грамадзянскай вайны, лячыў легендарнага героя Сяргея Лазо, быў сябрам Аляксандра Фадзеева, які, як лічаць многія даследчыкі, вывеў яго ў сваім рамане «Разгром» пад імем доктара Сташынскага, у першыя гады ўзначальваў Народны камісарыят аховы здароўя Савецкай Беларусі.

А хто такі Янка Тукала? Было вядома толькі, што яго прататып Сымон Самахвал з вёскі Нягертава, цяпер Кнотаўшчына. Яшчэ ў студэнцкія гады я звяртаўся да сваякоў Сымона. Звесткі былі вельмі скупыя. Я даведаўся, што ў Новым Свержані (у трылогіі — Панямонь) жыве яго родны брат Канстанцін Фёдаравіч Самахвал.

...Заходжу ў дом. За сталом, схіліўшыся над газетай, сядзіць у акулярах сівенькі дзядуля. Пры знаёмстве даведваюся, што яму восемдзесят гадоў, пенсіянер, былы настаўнік беларускай мовы і літаратуры ў Навасвержанскай васьмігодцы.

Дзядзька Кастусь успамінае:

— ...Сымон нарадзіўся ў 1883 годзе ў вёсцы Нягертава. Спачатку, як і ўсе вясковыя дзеці, пасвіў каровы. Пасля дзядзька Рыгор, настаўнік, забраў яго да сябе ў школу ў вёску Якшыцы, што на Бярэзіншчыне, рыхтаваў да паступлення ў семінарыю. Сымон быў вельмі здольны хлопчык.

— Дзядзька Кастусь, — умешваюся я ў гаворку, — з Янкам Тукалам мы ўпершыню знаёмімся ў трылогіі тады, калі Лабановіч заходзіць у Мікуцічах да свайго сябра Алеся Садовіча. Там ён сустракае і «другога свайго таварыша па семінарыі» Янку Тукалу.

— Так, Сымон меў амаль такую ж знешнасць, як і апісаны Я. Коласам Янка Тукала. З-за яго задзірыстага носу мы празвалі Сымона «чайнічкам». І ў трылогіі сам Янка Тукала называе свой нос «чайнічкам», з якім сорамна сунуцца да дзяўчат. Прычоска ў яго была заўсёды кароткай, валасы — белыя, жорсткія. Характар у Сымона быў сапраўды крыху замкнуты. Ён увесь час нешта задумваў, выношваў. Ён рэзка адрозніваўся ад сваіх аднагодкаў, якія жылі дробязнымі аднадзёнкамі.

— Магчыма, Сымон удзельнічаў у настаўніцкім з'ездзе ў Мікалаеўшчыне ў 1906 годзе?

— Ён быў адным з арганізатараў гэтага з'езда. Разам з Я. Коласам, Аляксандрам Сянкевічам уваходзіў у бюро сходу. Я, дарэчы, бег у той дзень папярэджваць яго, што ў нашай хаце ў Нягертаве навасвержанская паліцыя робіць вобыск. Ад Нягертава да Мікалаеўшчыны тры кіламетры. Пакуль я бег, паліцыя абагнала мяне на конях...

З'езд не ўдаўся... Вельмі перажывалі Якуб Колас і наш Сымон. Ён быў звольнены з пасады настаўніка і некаторы час даваў прыватныя ўрокі ў Міры, як Колас у Смалярні. У гэты час Сымон часта сустракаўся з Кастусём. Прывозіў яму з мястэчка нелегальную літаратуру, пракламацыі, разам абдумвалі надзённыя праблемы.

Пасля асуджэння Я. Коласа на тры гады турэмнага зняволення, Сымон пераехаў у Латвію, у горад Лібаву, дзе выкладаў у чыгуначным вучылішчы. Ён застаўся рэвалюцыянерам да пераможных кастрычніцкіх дзён.

Калі ў савецкі час пачалі адкрывацца навуковыя ўстановы, Сымон Самахвал паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Скончыў яго і пачаў выкладаць у Мінску ў аўтадарожным тэхнікуме, затым — у політэхнічным інстытуце.

Памёр ён 10 лістапада 1938 года.

**Яўген ХВАЛЕЙ.**

Надрукавана ў «Маладосці»

# ВЕЧНЫ

ПРЫЗНАЦЦА, мне ніколі не здавалася надта пераканаўчай версіяй аб нейкай асобнай, спецыяльным кодам пазначанай інтэлектуальнай прозе. Усё па-сапраўднаму таленавітае і сумленнае, незалежна ад прадмета ці сферы сваёй увагі, ад узроўню чалавечага матэрыялу, натуральна і без натугі плюсуе да такіх сваіх вартасцей, як псіхалагічная глыбіня і праўда, як жывая пластыка апісанняў, яшчэ і такую мастацкую рысу, як **арганічная** інтэлектуальнасць.

І ўсё-такі ёсць пэўная розніца паміж празаічным творам, які мае зыходным пунктам рэальна ўзноўленую падзею, жыццёвы факт, сюжэтна разгорнутую карціну, і творам, дзе асноўны канструктыўны фактар—**думка** пра жыццё, **ідэя** жыцця, рэалізаваныя, вядома, у чалавеку і праз чалавека.

... Галоўны герой «Хатынскай аповесці» Алеся Адамовіча быў партызан Флёра Гайшун, цяпер Фларыян Пятровіч, выкладчык універсітэта, разважае пра двух сваіх знаёмых — былога партызанскага камандзіра Касача і сённяшняга свайго калегу, апанента па чыстых «разумовых» спрэчках Барыса Бокія. І той, і другі ўмеюць думаць і шмат думаюць «пра людзей, пра чалавека», але ў Касача думка выказваецца «абавязкова праз дзеянне», у Бокія ж «сама думка, пакутлівая, няспынная, і ёсць дзеянне».

У аповесці Адамовіча гэтыя два прынцыпы спалучыліся. Можна сказаць, што пераважае другі, Бокіеў, прынцып,— тут думка і ёсць дзеянне. Аднак дзеля таго, каб вызначыць **сутнасць** гэтага дзеяння, яго глыбінны характар, найлепш звярнуцца да «практыка» Касача: «Ён умеў камандаваць, камандаваў «умела і цвёрда», але «рахункі яго былі не з аднымі немцамі» — «з самою вайною».

«Хатынская аповесць» Алеся Адамовіча і ёсць вось такі бязлітасны, узважаны востра эмацыянальнай думкай **рахунак з вайной.** З той, што была. і той, якую зноў рыхтуюць ворагі чалавецтва. З «філасофіяй» і «мараллю» рэакцыі, забойцаў Сангмі, якія імкнуцца вызваліць чалавека ад «хімеры» сумлення і пачуцця асабістай адказнасці за лёс зямлі. З няўартай разумнай чалавечай істоты—і небяспечнай! — тэндэнцыяй «загаварыць», «задобрыць» трагічную памяць мінулага, забыць яго ўрокі для дня сучаснага.

У вольнай ад усякіх эмпірычных дамешкаў, чыстай форме ўсе гэтыя праблемы пастаўлены ў інтэлектуальных дыспутах паміж Фларыянам і Бокіем. Не лічу, быццам гэтыя дыспуты (як і прыведзеныя аўтарам дакументы часу) чужыя ў аповесці. І ўсё ж мова эмоцый і вобразаў, як і заўсёды ў мастацтве, аказалася мацнейшай за мову тэорыі, хаця б таму, што там, за першым кругам уражанняў, перажыванняў, карцін, **увесь** чалавек, увесь Флёра Гайшун, і ягоным болем, рашучасцю і незагойнай памяццю жыве і дыхае «Хатынская аповесць».

Ёсць, як мне здаецца, у Флёры нейкі лішак нерва і крыку, нейкая спазматычнасць пакуты. Аднак не магу, не адважваюся кваліфікаваць гэты «лішак» і «перабор» як пісьменніцкі недагляд ці пралік, як хібу характару і ўсёй аповесці — **было ад чаго** жахнуцца на ўсё жыццё, на ўвесь чалавечы век «абрынуцца ў боль». Урэшце ж, павінен быць сярод нас, «нармальных», і адзін такі, хто б зрабіў душэўнай «нормай» для самога сябе не проста памяць аб мінулым— патрэбу і здатнасць **перажываць** мінулае **з** сілай і вастрынёю **сённяшняй** і адзінай, калі хочаце, страсцю. Такі чалавек патрэбен усім.

Пра аднаго партызана, таварыша Флёры, Адамовіч піша: ён— «галоўны хавальнік партызанскай геральдыкі», «з дапамогай ягоных пісем пастаўлены многія нашы помнікі»... Вось і цяпер партызанскае зямляцтва едзе адкрываць новы помнік, запаліць вечны агонь пры ім. Флёру ж Гайшуна балюча, балючай за іншых, паліць той першы, нефігуральны **вечны агонь,** і гэтае полымя ў сэрцы ён не хоча, не можа пагасіць. Не можа, нават і каб захацеў.

Тое, што Флёра—хавальнік не партызанскай геральдыкі, як Лапцёнак, не партызанскай лірыкі і фальклору, як Косця-начштаба, а іменна партызанскай трагічнай памяці, **дадаткова** матывавана ў аповесці адной акалічнасцю лёсу героя: Флёра сляпы, аслеп ад кантузіі.

«Убачу не тое, што там цяпер, а што было», думае Флёра ў аўтобусе, седзячы побач з таварышамі, якія збіраюцца заехаць у Хатынь. І далей: «Калі чалавек страчвае зрок, першы жах—не можаш расплюшчыць вочы... І адначасова другая пакута — заплюшчыць таксама не можаш. Назаўсёды адкрыты, адзін на адзін са светам! І з самім сабой—сваёю памяццю...»

Тут пісьменніка пільнавала сур'ёзная небяспека: псіхалагічны, **змястоўны** выпадак з Флёрам мог стаць выпадкам клінічным, істотнае перажыванне—паталогіяй, нездароўем. Пісьменнік абмінуў небяспеку. Той першы **вечны агонь,** тое полымя спаленых вёсак зырка і непагасна гарыць на «чорным экране» Флёравай слепаты, таму што **перад** слепатою, **раней** за калецтва былі чысціня, сумленне, натуральны гуманізм чалавека, выхаванага новым грамадствам. Фізічнае толькі падкрэсліла, акцэнтавала духоўнае, і роля гэтага фізічнага ў творы — сэнсавая, змястоўная.

Вельмі цяжка перачытваць, пераказваць бачанае і перажытае Флёрам, яго сябрамі, але трэба, трэба...

«Бачу, як жанчыны на гародах перабягаюць з месца на месца, падаюць, ізноў ускокваюць, паўзуць, цягнуць дзяцей. А ланцуг карнікаў марудна і няўмольна набліжаецца да гародаў, да вёскі. Вось жанчына ў яркай, чамусьці ружовай кофце падбегла да лазенкі і, азіраючыся кругом, падзывае малых. Двое—не, трое—бягуць да яе, падаюць і паднімаюць адзін другога. Жанчына запіхвае іх пад стрэшку з пацямнелага бульбоўніку...» Праз паўгадзіны-гадзіну яны загінуць. І жанчына, і дзеці. І не ад кулі нават—у агні...

«Цяпер я падыходзіў да таго самага месца, дзе гэта было, дзе наша хата. Тут ужо агеньчыкі не поўзаюць па гародах, толькі каля печаў трымціць гарачы дух; значыцца, пачыналі з гэтага канца... Я падыходжу да печы, кранаюся яе, нечакана халоднай сярод настылага вугалля... За яблынямі плямай бялеецца печ Юстына—нашага суседа...» Як у ваеннай паэме

Алесь Адамовіч. «Хатынская аповесць», Маладосць, №№ 8 і 9. 1972 г.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



50-годдзю ўтварэння СССР Магілёўскі абласны драматычны тэатр прысвяціў новы спектакль — «Тапалька мая...» паводле вядомай аповесці Чынгіза Айтматава. Паставіў спектакль галоўны рэжысёр тэатра У. Караткевіч у дэкарацыях мастака М. Волахава.

На здымку — у ролі Асэль артыстка Н. Караткевіч, Ільяса — артыст А. Гаманюк.

Фота А. ГОЛЫША.



Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы паказаў прэм'еру камедыі «Лесвіца славы» Э. Скрыба (пераклад з французскай мовы Я. Семяжона). Рэжысёр спектакля В. Раеўскі, дэкаратыўнае афармленне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР А. Грыгар'янца, музычнае — С. Картэса.

На здымку — сцэна са спектакля. У ролі графа дэ Мірмона — заслужаны артыст БССР П. Дубашынскі, Сезарын — народная артыстка БССР З. Бравeрская.

Фота Ул. КРУКА.

# ЧЫРВОНЫЯ ВЯРГІНІ

НАРЫС

А. ЖАЛКОЎСКІ,

А. МАЦКЕВІЧ

ВАЛОДЗЯ ЗАХАРЭВІЧ ехаў з далёкага Казахстана ў чарговы адпачынак. І чым бліжэй набліжаўся цягнік да родных мясцін, тым больш і больш думаў ён пра маці. Ужо каторы раз спрабаваў уявіць сабе, якой яна была.

Калісьці яму здавалася, што самы галоўны абавязак маці — пакарміць яго, сагрэць пяшчотай, прытуліць да цёплай шчакі, пагладзіць непаслухмяныя пасмы.

Падрастаючы, ён пачынаў разумець, што быў у яе яшчэ і другі абавязак — перад грамадствам, перад радзімай, перад самой сабой. Яму прагна хацелася даведацца пра гэта. Бо тое, што здарылася з ёю, на што яна пайшла, яскрава сведчыць аб яе выключнай мужнасці, бязмежнай адданасці справе, якой сябе прысвяціла.

Гэтыя думкі не давалі спакою Валодзю. Асабліва цяпер, калі ён зноў прыехаў у Радунь і хадзіў па блізкіх яму вуліцах пасёлка, дзе жыла, працавала, правяла лепшыя часіны жыцця яго родная маці.

Да вялікага будынка дома культуры накіроўваліся людзі. Ішлі ў кіно. У гэтым натоўпе быў і ён, Валодзя Захарэвіч. Ішоў не спяшаючыся, думаючы пра сваё, запаветнае, аднаму яму вядомае. І нават аб тым, што, магчыма, маці дэманстравала б сёння фільм у доме культуры. Але не давялося. У старэйшых застаўся кароткі ўспамін, як яна паказвала фільмы вось у гэтай старэнькай хаце, што знаходзіцца па вуліцы Савецкай. Некалі тут размяшчаўся райком партыі. Яго невялічкая прыёмная ператваралася на некаторы час у глядзельную залу. Захаваўся яшчэ адзін будынак па вуліцы Кірава. Таксама драўляны, старэнькі. У тую пару гэта быў раённы дом культуры. На большае ніхто і не разлічваў. Глядзелі кіно, слухалі лекцыі аб ходзе ваенных дзеянняў, аб міжнародным становішчы, наладжвалі танцы, канцэрты мастацкай самадзейнасці. Ініцыятарам была яна — Марыя Захарэвіч.

Ішоў 1944... Савецкая Армія гнала з роднай зямлі ворагаў. Услед за дзеючымі часцямі ў вызваленыя раёны Заходняй Беларусі ехалі партыйныя і савецкія работнікі, спецыялісты розных галін гаспадаркі. Спяшалася сюды і Марыя Захарэвіч, чалавек сціплай прафесіі — кінамеханік.

Складаная была сітуацыя ва ўсіх адносінах. Пад Беластокам грымелі баі. Нярэдка варожыя самалёты з'яўляліся ў небе Гродзеншчыны. Па начах бадзяліся яшчэ групы ўзброеных нацыяналістаў і паліцаяў, якія хаваліся ад расплаты. Паездкі партыйных і савецкіх работнікаў у аддаленыя вёскі былі небяспечнымі і нават трагічнымі. Марыя не баялася ніякіх перашкод. Бо ў бездакорным выкананні абавязкаў бачыла сэнс свайго жыцця.

Папулярныя кінастужкі «Ленін у Кастрычніку», «Ленін у 1918 годзе», «Аляксандр Неўскі», «Кутузаў», «Сувораў», «Чапаеў», «Аляксандр Пархоменка», «Сакратар райкома» былі сродкам уздзеяння на розум і сэрцы людзей.

Кінамаршруты, як правіла, распрацоўваліся ў райкоме партыі з непасрэдным удзелам першага сакратара Акіма Іванавіча Куляшова.

Аднойчы высветлілася, што ёсць нямала вёсак, дзе кіно ўвогуле не бачылі. І Марыя Міхайлаўна цвёрда рашыла ехаць туды. Чым хутчэй пакажа там фільм, тым бліжэй пазнаёмяцца людзі з вобразам вялікага Леніна, легендарных палкаводцаў, герояў Вялікай Айчыннай вайны. І яна паехала. У простай і даходлівай форме Марыя расказвала гледачам, што фільмы аб барацьбе савецкага народа з нямецка - фашысцкімі захопнікамі, такія як «Сакратар райкома»,

# АГОНЬ

Рыгор БЯРОЗКІН

Куляшова: «Суседзі па попелу хат». Толькі тут, у Адамовіча, суседзі—таксама попел... Потым ён, Флёра, і Глаша, першае яго каханне, каштуюць выкіпелага амаль да дна агорклага крупніку і горкай, бы вугаль, бульбы. Выкіпелі і спапялелі ў тым самым полымі, дзе людзі...

Усе гэтыя эпізоды, сцэны, карціны—незамкнёныя ва ўласных межах «кадры» **эпічнага** цэлага, яго разнастайныя і ўвогуле роўныя сваім значэннем праявы. Перад намі плынь успамінаў, эмоцый, думак **цяперашняга** Флёры Гайшуна, і ў гэтай плыні ўвесь час адбываюцца дзіўныя з пункту погляду традыцыйнага эпасу псіхалагічныя зрухі, падмены і падстаноўкі—увесь час размаўляюць паміж сабой, мяняюцца месцамі, «працягваюць» адзін аднаго Флёра і Фларыян Пятровіч. Тадышні Флёра і сённяшні Фларыян.

Дарослы Гайшун абавязаны самому сабе, васемнаццацігадоваму, з «нягеглай, чорнай... ад сырасці» вінтоўкай, «у абвіслых абносках» і цяжкіх ботах, тым, што выйшлі **сюды** з Глашаю, з каханнем і болем, з таварышамі і сябрамі. Але і той, даўнейшы, які «то прападае за дрэвамі, то вынырвае з-за іх» і моўчкі, сярдзітымі знакамі вядзе за сабой, вырастае ў сваіх дачыненнях да **гісторыі** і такім чынам раскрываецца да канца праз тое, што добра ведае сённяшні Фларыян, сучаснік Асвенціма, Хірасімы —і першых, гагарынскіх, крокаў у космас: «Мусіць, нават не са злосцю, а весела ганяліся «месеры» за бежанцамі», і так вось «цэлілі б з чорнага космасу ў блакітнашкляны шарык, якім любаваліся першыя касманаўты, шчаслівыя, што яны людзі...»

Не **цэляцца**, таму што былі **салдаты**, і сярод іх няўклюдны, смешны ў сваёй куртатай шынельцы добры Флёра Гайшун, таксама «шчаслівыя, што яны людзі», і гордыя, што скруцілі, паставілі на калені фашысцкага людаеда.

Скажам, вось гэтага, намаляванага ў нязвыклай для нашай прозы эксцэнтрычнай манеры, **галоўнага карніка,** які аддаваў загады кідаць у агонь, цкаваць аўчаркамі і страляць, тым часам як на вострым яго плячы дурэў бяскрыўдны звярок—прыручаная малпа. (Пазней у лесе, узяты партызанамі, гэты галоўны забойца будзе чапляцца за малпу, нібы памяняецца з ёю ролямі— «не яна пры ім, а ён пры ёй», і на твары яго будзе напісана: «Я добра трымаю? Усім відаць? Ці вось так лепш?»)...

Новая аповесць Адамовіча тым і вабіць найбольш, што за рэдкім выключэннем няма ў ёй «мёртвых», не напоўненых мастацкім жыццём ці нават нейтральных клетак і пунктаў. «Намагнічана» ледзь не кожная кропка. Напрыклад, патрон у вінтоўцы, які, здаецца, сам варухнуўся ў ствале, калі немцы прайшлі зусім блізка ад Флёры і Глашы. Ці, скажам, зямля, што «нібы прыўзнімаецца насустрач» ракеце, калі яна, ракета, падае, «і ўсё, што можна бачыць у хісткім яе святле, нібы на дыбачкі ўстае, паглядзець, куды ўпала».

Неяк па-новаму ўгледжаны, у новым **аналітычным** ракурсе павернуты нелюдзі, каты: «Проста пакута на іх фізіяноміях, мука, крыўда. Мы ж такія недысцыплінаваныя, аніяк не хочам... верыць у звычайнасць і неабходнасць таго, што адбываецца». Адбываецца ж «экзекуцыя» — забойства жанок і дзяцей!

Жудаснаму, злавеснаму механізму забойства супрацьстаўлена сапраўдная **веліч** народнай пакуты: «Ціхан, я плачу, бачыш, і дзеці плачуць, і твае таварышы тут, Ціхан, ты чуеш, мы плачам!» — галосіць старая над мужам-партызанам. І веліч народнай стойкасці, пагарды, бясстрашнасці: «Тут забівай... не пайду ў агонь!» — кідае вясковы дзядзька двум паліцаям, аднаму панураму, другому вясёламу...

Запомніўся жартаўліва-самотны Цімох Рубеж-«Спіноза», які ўвесь час вядзе гаворку са светам, за свет, як бы ад яго імя. «Вось я на вас зверху папырскаю», балбоча дождж-Рубеж, а месяц-Рубеж ажно разліваецца ў душэўнай лагодзе: «Ах, які я кругленькі і светлы! Іголак вам — збірайце. Ці можа салаўёў? Магу!..» Тут ёсць тая арганічная для **гэтага** твора, для твора-роздуму і **канцэпцыі** доля мастацкай умоўнасці, якою, на жаль, не часта радуе сучасная аповесць.

У прынцыпова і паслядоўна нефактаграфічнай «Хатынскай аповесці» рэчаіснасць пераўтворана актыўнай думкай, а значыць, і актыўнай, **творчай** формай.

Па-рознаму, на неаднолькавых узроўнях пазнання, высвятляюцца розныя персанажы. Касач, напрыклад, пазнаецца ўскосна, праз тое, што думаюць, ведаюць ці гавораць аб ім іншыя персанажы, і мне асабіста цалкам «хапае» імення такога, скупога, яшчэ людзьмі не адкрытага да канца, «замарожанага» ў нямецкім лагеры Касача.

А вось Глаша, хоць і яна ў патоку, у плыні Флёравых перажыванняў і разваг, успрымаецца як персанаж аб'ектыўна-рэальны, са сваім «наяўным» быццём. Так добра верыш Глашы, гэтаму ўвасабленню **жыцця,** маладосці і прагі простага шчасця, у гэтым узрушаным вайною і смерцю амаль нерэальным свеце, дзе маніякальназлосныя і аўтаматызаваныя прывіды спрабуюць сцвердзіць сваё панаванне над людзьмі.

Пры ўсёй сваёй лёгкасці, нават імгненнасці пераходаў з радасці ў смутак, са святла ў цень, Глаша—поўная зямное важкасці і цеплыні істотная нота ў той надзвычай сур'ёзнай размове пра **асноўнае,** пра **карэннае,** якую вядзе Алесь Адамовіч, аўтар «Хатынскай аповесці»...

Спашлюся на словы Леаніда Лявонава: літаратурны «твор... у той ступені каштоўны, у якой да яго прымешана асоба аўтара і наколькі значная сама гэта асоба».

І Флёра Гайшун, і Глаша, і Касач, і Рубеж, і ўсе падзеі, раскрытыя ў «Хатынскай аповесці», усе яе вобразныя і «мысліцельныя» вузлы і канфлікты, глыбока кранаюць нас, чытачоў, толькі таму, што ў іх і за імі — асоба аўтара, яго дапытлівая, жывая і вельмі **важная** для людзей, для жыцця думка - перажыванне, думка-страсць.

«Яна абараняе Радзіму» і іншыя здымаліся па слядах гарачых падзей, што ў іх аснове — канкрэтныя прыклады гераічных учынкаў савецкіх патрыётаў.

Кінамеханік улічвала і тое, што на тэрыторыі раёна жывуць людзі, якія зусім не ведаюць або ведаюць слаба рускую мову. У такіх выпадках яна давала тлумачэнні, рабіла пераказы. Аднойчы даведалася, што ў кантору кінапракату паступіла карціна з польскімі субцітрамі. Гэта якраз тое, чаго так не хапала ёй. У той жа дзень паехала ў Гродна, выпісала фільм. А вярнуўшыся, роўным почыркам на шпалерах выводзіла: «Таварышы, запрашаем вас паглядзець мастацкі фільм...»

Па ўсіх напрамках пралягалі няходжаныя дарогі і сцежкі кінамеханіка. У дождж, мароз, мяцеліцу. У любы час насцярожаных сутак.

На рэдкасць ініцыятыўная дзяўчына перад кожным сеансам выпускала светавую газету, і не было літасці тым, хто крочыў не ў нагу з новым ладам.

Здраднікі даўно чакалі зручнага моманту, каб расквітацца з надакучлівым кінамеханікам, звесці рахунак: яе прапагандысцкая дзейнасць стаяла ім упоперак горла.

...Як заўсёды, апоўначы вярталася Марыя дадому, у райцэнтр. Настаяўшыся на марозе, шпарка бег конь, фыркаючы, раскідваючы падковамі снег. Паволі рухаліся насустрач цёмныя плямы хмызняку, скрыпеў пад палазамі снег. На шэрым небе мігцелі зоркі. Шчыльней захуталася Марыя ў паношаны кажушок. Тузанула лейцы. І тут толькі заўважыла, што ад хмызняку адарваліся нейкія цені. Было іх мо пяць ці шэсць. Цяжка выцягваючы з глыбокага снегу ногі, яны ішлі напярэймы... Начную цішыню абудзілі хрыплыя галасы:

— Куды спяшаешся, камсамолачка:

— Пашкадуй каня, дзетанька...

— Воўку на вячэру тлусты кавалак будзе...

Захарэвіч імгненна ацаніла абстаноўку. Крыкнула ва ўсю моц голасу:

— У мяне гранаты! Падарву, сволачы, хоць і самой смерць.

—Эй, ты не рыпайся! Звар'яцела?! — супыніліся бандыты.

Марыя сцебанула каня. А той, нібы адчуўшы бяду, рвануў галопам.

У тою ж ноч органы бяспекі вылавілі бандытаў. Марыю запрасілі паглядзець на іх. Як высветлілася, у іх не было патронаў. І яна цяпер здагадалася—бандыты звычайныя кінастужкі прынялі... за гранаты. Не праяві дзяўчына кемлівасці, расправіліся б з ёю голымі рукамі.

Прайшлі месяцы напружанай і так неабходнай людзям працы Марыі Захарэвіч. Людзі палюбілі кіно. Для іх яно станавілася штодзённай патрэбай. А кінамеханік старалася абслугоўваць насельніцтва як мага лепш. Праўда, у яе была прымітыўная апаратура. І калі паведамілі, што выдаюць новую, колькі было радасці на сэрцы Марыі.

Акім Іванавіч запрасіў яе да сябе і, задаволены, сказаў:

— Ну, Марыйка, зажывём цяпер. У Гродна трэба ехаць за апаратурай.

— То я і паеду, — не вагаючыся прапанавала Захарэвіч.— Там і апаратуру праверу...

Сакратар райкома не сумняваўся ў смеласці і рашучасці дзяўчыны, бо ведаў, быў перакананы, што яна здольна на любую справу. Але ці варта пасылаць за апаратурай менавіта яе.

Марыя дамаглася свайго. У Гродна з ёю паехала Вольга Высоцкая, педагог, загадчык педкабінета райана.

У дарогу яе збіралі ўсім пасёлкам. Хто кажух прынёс, хто валёнкі, а хто цёплую хустку. Зіма ж стаяла марозная: да трыццаці градусаў даходзіла. Ой, як спатрэбіліся ёй гэтыя няхітрыя рэчы. Здавался, што не цела, а сэрца сагравалі яны. Было такое адчуванне, што аб ёй ніхто яшчэ так не клапаціўся, як цяпер.

...У гарадскім пасёлку Воранава жыве бацька Валодзі. Таксама чалавек з цікавай біяграфіяй, складаным лёсам. Бо і на яго плечы лёг цяжар ваенных і пасляваенных год. Юнацтва, маладосць Станіслава Макаравіча гартаваліся ў жорсткай барацьбе з ворагам, з цяжкасцямі аднаўлення народнай гаспадаркі.

...Зімой 1942 года ў складзе дэсантнай групы праз славутыя Суражскія вароты Захарэвіч быў закінуты ў тыл ворага. І з гэтага часу стаў партызанам. Мужна змагаўся за вызваленне роднай Беларусі. Адтуль, з-за лініі фронту ён атрымаў усяго тры лісты ад блізкага сэрцу чалавека. Па некалькі разоў перачытваў адно і тое ж. Нібы кінакадры, зноў і зноў праходзілі перад ім успаміны аб тым, як яны пасябравалі з Марыяй, разам працавалі кінамеханікамі ў полацкім кінатэатры «Інтэрнацыянал», як потым пажаніліся.

Пасля вызвалення Беларусі ад захопнікаў учарашні партызан, Захарэвіч, быў актыўным удзельнікам стваральнай работы. Працаваў у партыйных і савецкіх органах. Зараз Станіслаў Макаравіч на пенсіі.

Часта ён абдумвае перажытае, па начах ветэрана непакояць старыя раны, шчымяць, як напамінак партызанскага неспакойнага жыцця.

... Уладкаваўшы ў абласным цэнтры ўсе справы, Марыя Захарэвіч і Вольга Высоцкая адправіліся зноў у Радунь. З сабою везлі апаратуру. Цяжкую, груваскую. Але на сэрцы было светла. Наперадзе ляжаў той самы шлях: да Ліды — цягніком, а там на санях.

У Ліду прыехалі вечарам. Адразу перaселі на сані. Гадзіны праз дзве зрабілі прыпынак у Жырмунах — вёсцы, якая ўздоўж рассякаецца шашой. Стаміліся коні, ды і змяркалася. Вось і рашылі трошкі адпачыць, а там, на золаку, зноў у дарогу.

Заначавалі ў сельскім Савеце, які размяшчаўся ў прыватнай хаце. Гаспадыня Францішка Грынцэвіч прыняла іх моўчкі, нібыта нехаця. Замкнулі дзверы на ключ. Патушылі лямпу. Спаць улегліся ўдвух, з Вольгай, накрыўшыся кажухамі, сагрэўшыся, хутка заснулі.

Колькі прайшло часу — невядома, як хтосьці пачаў барабаніць у вокны і дзверы. Так моцна, што шыбы дрыжэлі. Жанчыны падхапіліся. «Яны, бандыты» — мільганула думка.

Між тым, адтуль, з сенцаў, пачуўся загад.

— Эй, вы камсамолачкі, выпаўзайце...

Высоцкая прытулілася да сяброўкі, прашаптала спалохана:

— Што рабіць, Марыйка?..

— Не адчынім дзвярэй і ўсё,— рашуча прамовіла Захарэвіч, і закінула назад доўгія, прыгожыя валасы.

З сенцаў крычалі зноў:

— Лічу да трох. Раз... Два...

На нейкі момант усталявалася цішыня, прыкрая, страшная. Бо літаральна праз некалькі мінут нешта затрашчала, выбухнуў агонь, і сталі відаць сілуэты тых, хто падпаліў хату.

— Значыць, канец,—лементавала Вольга Высоцкая, — давай выйдзем. Што яны нам зробяць.

— Не, Вольга, не, — трэсла галавою Захарэвіч,—усё роўна смерць. То лепш так.

Абвалілася страха. Дым пачаў сачыцца ў хату. Заставацца тут далей было немагчыма. Яны спусціліся ў пограб. Але і там было не лепш. Не толькі дым, агонь падбіраўся сюды, лізаў настылыя бярвенні і цагліны. Падалі галавешкі. Побач загарэўся хлеў. Дзяўчаты задыхаліся ад нясцерпнага кашлю. Нічога не бачылі вакол сябе, бо вочы еў дым. Вольга Высоцкая ні аб чым больш не прасіла Марыю. Ціха ўсхліпвала. Увесь час церла вочы.

Уводдалі ад дзяўчат Францішка Грынцэвіч, якая трымалася, раптам падхапілася, сказала нібы сама сабе:

(Заканчэнне на 14-й стар.)

# ЧАСОПІСЫ Ў ЛІСТАПАДЗЕ

## «ПОЛЫМЯ»

**Значнае месца ў нумары адведзена матэрыялам, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. «Наша любоў і гордасць» — так называецца артыкул І. Шамякіна, які адкрывае гэты раздзел часопіса. Тут жа артыкулы М. Мушынскага «Якуб Колас у літаратурнай крытыцы», А. Лойкі «Мудрасць жыцця», І. Навуменкі «Летапіс жыцця і барацьбы»,Ю. Пшыркова «Сымон-музыка» і літаратурны працэс». Цікавыя таксама нататкі Ю. Гаўрука, Б. Сачанкі, А. Жукаўскаса, К. Яшэна, А. Звонака, вершы беларускіх паэтаў.**

**«У сям'і адзінай, дружнай» — так называецца падборка вершаў паэтаў з братніх рэспублік у перакладзе на беларускую мову. У часопісе змешчаны пачатак новага рамана А. Савіцкага «Тры неапражытыя дні» і вершы В. Іпатавай.**

**У раздзеле «Крытыка і літаратуразнаўства» — артыкулы У. Сакалоўскага «Іаганес Бехер і беларуская літаратура», А. Гардзіцкага «Падарожжа праз перажытае і перадуманае», Р. Няхая «Песняр азёрнага краю».**

**Шмат у нумары рэцэнзій. Сярод С. Крыўца «Дубок», М. Янкоўскага на кнігу А. Фядосіка «Трапным народным словам», У. Содаля на зборнік А. Дзеружынскага «Ластаўка».**

**Цікавы артыкул народнага пісьменніка Беларусі М. Лынькова пра пяцідзесяцігадовы шлях часопіса.**

**Як заўсёды, на апошніх старонках у нумары «Хроніка».**

## «МАЛАДОСЦЬ»

**Да 50-годдзя ўтварэння СССР часопіс змяшчае матэрыялы, прысвечаныя Расійскай Федэрацыі. Сваё лірычнае эсэ С. Грахоўскі назваў «Сонца Расіі». Пра Маскву расказвае В. Плешавеня ў публіцыстычным артыкуле «Сэрца Радзімы маёй».**

**У раздзеле паэзіі — новыя вершы К. Кірэенкі, В. Віткі, Я. Мальчэўскай. Не пакінуць чытача абыякавым і паэтычныя мініяцюры нямецкага пісьменніка Эрвіна Штрытматара «Лісткі з календара», якія перакладзены на беларускую мову.**

**Багаты і змястоўны раздзел публіцыстыкі. Ён адкрываецца артыкулам С. Кухарава «Вобразы роднага краю». Юбілею народнага паэта Беларусі прысвечаны аповесць Сцяпана Александровіча «Ад гоману бароў» і артыкул Серафіма Андраюка «Вялікае святло жыццесцвярджэння».**

# БЕЗ СКІДАК НА АМАТАРСТВА

Два дні глядзець кіно! Ці ж не прыемна? Але для тых, хто правёў два дні ў малой зале Палаца прафсаюзаў,— гэта была цяжкая праца. Больш за шэсцьдзесят аматарскіх кінастужак павінна было праглядзець і ацаніць журы рэспубліканскага конкурсу.

Фільмы былі розныя: відавыя, вытворчыя, лірычныя, спартыўныя. Яны ўслаўлялі прыгажосць роднага краю, расказвалі пра фабрычныя дамы адпачынку і пра кветкі, пра паходы па партызанскіх сцежках і пра курсантаў аэраклуба. Розныя пытанні закраналіся ў аматарскіх стужках — скажам, такое: навошта чалавеку плот? Пра гэта смешна і вынаходліва зняла фільм кінастудыя «Юпітэр» Магілёўскага завода «Строммашына».

Ва ўсіх стужках адчувалася арганічная неабходнасць выказацца, выявіць сябе, свае адносіны да штодзённага жыцця. Таму і глядач не застаўся абыякавым. Шэраг фільмаў, без скідак на аматарства, можна было б рэкамендаваць кінапракату для дэманстрацыі на «прафесійным» экране.

Гэта перш за ўсё «Старонкі бессмяротнасці» (аўтар Л. Чарніло̆ўскі з Гродна — першая прэмія і дыплом I ступені Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў і Саюза кінематаграфістаў БССР), «Памяць сэрца» (самадзейная кінастудыя Гомельскага абласнога дома народнай творчасці, кіраўнік Ул. Падаліца — другая прэмія), «Пачуццё рабочага абавязку» (самадзейная кінастудыя Баранавіцкага баваўнянага камбіната, кіраўнік Ул. Сазанкоў — другая прэмія), «Купалінка» (самадзейная кінастудыя Дома культуры чыгуначнікаў, кіраўнік А. Рагоўскі), «Пяцьдзесят кіламетраў па «Вейна», гэтай жа студыі — трэцяя прэмія.

Трэцюю прэмію атрымалі таксама фільмы «Дарогі» самадзейнай студыі Мінскага мотавелазавода, «Служу Савецкаму Саюзу!» самадзейнай студыі Мінскага акруговага Дома афіцэраў ЧБВА. Лепшыя стужкі, прысвечаныя роднай прыродзе, былі адзначаны прэміямі і дыпломамі Беларускага таварыства аховы прыроды. Сярод іх: «Вясёлка ля прахадной» баранавіцкіх кінааматараў, «Лясная фуражка» кінааматара С. Морса з Гродна, «У сааўтарстве з прыродай» наваполацкіх аматараў і інш.

Сем фільмаў сталі дыпламантамі конкурсу. Сярод іх — «Навошта чалавеку плот?», «На полацкай зямлі» (Дома культуры Наваполацка) і іншыя.

Падводзячы вынікі рэспубліканскага конкурсу аматарскіх стужак, старшыня журы Р. Ясінскі зрабіў шэраг заўваг, якія тычацца большасці прадстаўленых на конкурс фільмаў. Амаль усе яны перагружаны гукавым суправаджэннем: кадравы і сінхронны тэксты, музыка. Але ўсё гэта часам не спалучаецца, не дапаўняе матэрыял, а, наадварот, — «заціскае», існуе само па сабе. Так павялося, што ў фільме абавязкова павінна быць — песня. І часта песня ператвараецца ў самамэту, аўтары забываюць пра асноўную тэму і экранізуюць песню. Адсюль непатрэбная расцягнутасць карцін, шматтэм'е ў рамках кароткай дзесяціхвілінутнай стужкі. Гэтым грашаць стужкі, прысвечаныя тэхнічным вучылішчам, у якіх імкненне расказаць «пра ўсё, усё» ўхіляе ад галоўнага, не дае гледачу засяродзіцца на чымсьці адным.

Адкуль гэтыя недахопы? Ад таго, відаць, што кінааматары не давяраюць часам выяўленчым кінасродкам, забываць пра спецыфіку кінамовы, якая не мае патрэбы ў перакладзе на мову гукаў і слоў.

Журы пажадала ўдзельнікам конкурсу больш вострага аўтарскага, аператарскага, рэжысёрскага зроку, больш вострай назіральнасці, больш смела адыходзіць ад агульных сярэдніх планаў, углядацца ў жыццё, набліжаць кінакамеру да твораў сучаснікаў, да складаных з'яў рэчаіснасці.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

# ЧАСОПІСЫ Ў ЛІСТАПАДЗЕ

## «БЕЛАРУСЬ»

Сцяпан Александровіч свой артыкул пра Якуба Коласа, змешчаны ў часопісе, трапна назваў «Неманаў дар». Мікола Базарэвіч расказвае аб сяброўстве двух песняроў Купалы і Коласа. Ягоны артыкул «Яны ішлі поплеч» удала дапаўняецца дакументальным здымкам з 30-х гадоў. «У Тальцы» — так называецца ўрывак з новай паэмы А. Бялевіча.

Нататкі «На радзіме песняра» М. Сталярова, артыкулы народнага артыста рэспублікі Ц. Сяргейчыка «Найкаштоўнейшы скарб», «Тры сустрэчы» І. Пучынскага, рэдкі здымак, які прапанаваў С. Шушкевіч, дарожная замалёўка Ул. Томкі з Нясвіжа— усё гэта кветкі ў вянок народнаму песняру.

З іншых матэрыялаў чытача зацікавяць артыкул кандыдата эканамічных навук Л. Харыка «Магутнасці нашай аплот», нарыс А. Вінаградава і Н. Тулякова «У горадзе на Няве», новыя вершы М. Калачынскага, П. Прудніkава, К. Камейшы, Я. Шабана.

Часопіс адзначае юбілеі Н. Сакалоўскага, В. Палескага, А. Вольнага, М. Машары. У раздзеле «Сярод кніг» рэцэнзіі М. Хведаровіча, А. Кірпічэнкава, Н. Аранскага, М. Васілеўскага на новыя кнігі.

## «НЕМАН»

Нумар адкрываецца падборкай «Якубу Коласу—90 год». Змешчаны фотаздымак народнага песняра, а таксама тэкст яго звароту да студэнтаў Беларускага універсітэта і педагагічнага інстытута імя Горкага, з якім Я. Колас выступіў 13 лістапада 1952 года.

Напярэдадні юбілеяў Я. Купалы і Я. Коласа рэдакцыя звярнулася да шэрагу пісьменнікаў з прапановай падзяліцца думкамі аб вялікіх беларускіх песнярах, аб іх традыцыях у сучаснай беларускай літаратуры. Друкуюцца адказы А. Салынскага, М. Лынькова, А. Ганчара, М. Нагнібяды, І. Шамякіна. У вянок Якубу Коласу ўплятае свой верш «Альбуць» Б. Спрынчан.

А. Саннікаў у артыкуле «Тры ролі акцёра» расказвае аб працы А. Ільінскага ў п'есах Я. Коласа. Вялікаму песняру ў раздзеле крытыкі прысвечаны артыкулы А. Лойкі, М. Жыгоцкага, Л. Ванковіч.

У перакладзе на рускую мову надрукавана апавяданне «Шушанік» І. Чыгрынава. Часопіс знаёміць чытача з маладымі празаікамі М. Багоевым, Ф. Сірэнкавым. Іх творы змешчаны пад рубрыкай «Старонкі першага апавядання».

Змешчаны таксама вершы 11 маладых паэтаў. Сярод іх Г. Казак, М. Токараў, М. Казлова і іншыя.

Герой Савецкага Саюза К. Міхаленка прапануе заканчэнне дакументальнай аповесці «Я выбраў неба». Пачатак яе змешчаны ў 6—7 нумарах часопіса за 1970 год. З публіцыстыкі цікавыя артыкулы М. Калачынскага «Поступ рэспублікі», А. Бараноўскай «Джульеты 2000 года», заканчэнне ўспамінаў Г. Будая «Так мужала маладосць».

# ЧЫРВОНЫЯ ВЯРГІНІ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 12—13).

— Пайшла я... Дасць бог не заб'юць,— і пачала падымацца па лесвіцы. Адтуль, зверху, яшчэ мацней паваліў дым, клубамі папоўз па сырой, халоднай зямлі.

Марыя і Вольга адлічылі яшчэ некалькі пакутлівых мінут. Але што гэта, стрэлаў ужо не чуваць? Значыць, надакучыла бандытам чакаць.

— Пойдзем, — прапанавала Марыя, і першай пачала намацваць гарачыя перакладзіны лесвіцы. Вольга Высоцкая трымалася за яе руку. Так яны, сабраўшы апошнія сілы, і падымаліся ўгару.

На ганку знямоглыя, згараючы ад смагі, ледзь трымаючыся на нагах, яны на ўсе грудзі ўдыхалі чыстае, марознае паветра. І забыліся пра небяспеку, пра холад, не чулі ні бандыцкіх выкрыкаў, ні аўтаматных стрэлаў, ні іржання напалоханых коней. Мабыць, адчулі толькі цеплыню ўласнай крыві, — калі Марыя прыціскала да сэрца далоні, а Вольга Высоцкая, абхапіўшы рукамі галаву, з'ехала з ганку...

...Гэта здарылася 14 студзеня 1945 года. Нашы войскі былі пад Варшавай. Да канца вайны заставалася менш чатырох месяцаў...

А ў Радуні ўсе чакалі кінамеханіка з Гродна. Чакалі новага фільма. На ўсіх слупах, на ўсіх скрыжаваннях вуліц былі расклеены афішы з надпісам: «Дарагія таварышы! Запрашаем вас паглядзець новы мастацкі фільм «Яна абараняе Радзіму».

Марыю Міхайлаўну прывезлі ў Радунь на тых самых санях, на якіх яна паехала ў свой апошні шлях...

Нарадзілася Марыя Захарэвіч у Ленінградзе. Хацела пасля вайны паказаць сыну хараство гэтага цудоўнага горада... Марыя была адзінай у бацькоў дачкой. Валодзя быў яе адзіным сынам.

...Ужо ў каторы раз усе Захарэвічы — муж, сын, унукі—моўчкі стаялі перад свяшчэнным абеліскам. Магчыма, уяўлялі, якой была б яна цяпер—жонка, маці, бабуля...

А наўкола магілы яркай чырванню гарэлі пушыстыя вяргіні. Над беласнежным будынкам сельскага Савета ветразем палымнеў чырвоны сцяг.

Воранаўскі раён.



**Ф. ЯНКОЎСКІ**

# ПУСТАДОМКІ

Малюнкі Ж. ШЫДЛОЎСКАЙ.

*— Пустадомкаў не сеюць, іх не густа, але яны, чалавеча, яшчэ не звяліся, — казала мне ў вёсцы... Бабруйшчыне прабабка дваццаці шасці праўнукаў і бабка дваццаці чатырох унукаў, яшчэ ягадніца і грыбніца, яшчэ пралля і ткалля.*

*У гэтай вёсцы я чуў не раз і не два: «пу-ста-до-мак», «пу-ста-дом-кі». Не раз і не два чуў гэта выразнае і празрыстае слова каля Любані, Старых Дарог, каля Радашковіч, Бягомля, Вольсы, Кіраўска...*

*Разгарнуў свае нататкі блізкіх і далёкіх гадоў. У сшытках, блакнотах і на дзяжурных картках слова «пустадомкі» не раз і не два паўтараецца. А за ім, за гэтым словам...*

*У маіх запісах гэта слова сустракаецца з рознымі значэннямі, паўтараецца — з адным: абыякавы, безгаспадарны (пра чалавека).*

*А з рознымі значэннямі? Яны— у абразках з жыцця, з натуры, з размоў.*

*Мне расказалі...*

## ЛОВЯЦЬ І СУШАЦЬ

— Рыбы, кажаце, мала? Бо і вады ў нашай Шчары стала мала. Дый вельмі ж ловяць. Рыбакоў — усе берагі абселі.

— Вудачкамі, — кажу жанчыне з



вёскі над Шчараю, — рыбы не пераловіш.

— Ведама, што не, але...

І яна з болем і з дакорам дадала:

— Сюды ў нашу «Рэчаньку» (дом адпачынку над Шчараю) летась прыязджаў нейкі Сіта (так я і не разабралася: ці гэта яго прозвішча, ці гэта яму мянушку далі тут у нас, на Шчары). І што думаеце? Як устане з сям'ёю — усе ўчатырох — за вудачкі і давай цягаць, цалюткі дзень цягаюць рыбку. Тады пасоляць і вывесяць на верандзе. Глядзім, дык сотні тых рыбак пананізвалі на тонкі дроцік, усё адно як гарбузікаў або караляў. І сушаць, і сушаць... А раз гэты Сіта стаіць і хваліцца, што і ён і жонка любяць піва піць і есці рыбку-сушанку. Каб твае, казаў той, вантробы сушыліся! Пустадомак ты несусветны! Што гэта робіш? Мы згаварыліся: як сёлета прыедзе, пойдзем і ўсё скажам яму, як думаем... Але нешта не едзе. Дык нейкі другі «Сіта» прыехаў з трактарнага. Гэты ўвесь бераг Шчары, ад вёскі Скрундзі аж да вёскі Трахімавічы, пакапаў, з азярын траву ўсё выцягвае, вугровіц, або верацяніц, і п'явак шукае, а на іх язёў і акунёў ловіць. Глядзім — дык і ён пустадомак. Што ж станецца, як усе за берагі гэтак возьмуцца?

## У ГАСЦЯХ



Радасць сустрэчы маці з дзецьмі і ўнукамі ў першы ж дзень пасмутнела, а дзеці, самі дзеці ўбачылі, што іх мама пасля першых ужо гадзін гасцявання стала нейкаю іншаю. У вачах яе з'явілася незадаволенасць. Ды яна, незадаволенасць, зусім іншая, не такая, чым была тады, калі яны падлеткамі, юнакамі дзесьці памыляліся, шкодзілі, рабілі часам не гэтак, як трэба.

А на другі дзень маці не ўтрывала.

— Як жа гэта? Дзе ж бачылі?! Ні ў нашай, ні ў суседніх вёсках няма і не было гэтакага. Радачка мая! Дзеці на бацькоў — на бацьку, на матку— «ты»! А тады і на мяне, старую, на бабулю, ужо «тыкаюць». Гэта ўнукаў прычакала... Ды што ж вы робіце? Яму, раздуронцу, чатыры гадочкі, а ён цацкі шпурляе і шпурляе на зямлю, а мама бегае падымае, абцірае. Глядзець няможна! Бачыць нельга! Ды на каго ж вы іх вывучыце? За каго ж яны будуць? Ды гэтак гатовыя пустадомкі растуць!..

## ДАПЫТВАЕЦЦА, АЛЕ НАШТО?



— Вы толькі пачуйце! Студэнты прыехалі на бульбу. Капаюць, падносяць, у капец звозяць. З імі настаўнік іх, нейкі дацэнт. Пайшоў раз да яго Паўлюкоў Іллючок. Студэнты сядзяць (якраз перадышка была, а ён і пытаецца ў гэтага настаўніка, але так, каб чулі і студэнты: «А як, скажыце, вучыцца дачка Петруся з нашае вёскі? Ён жа ў вас таксама за настаўніка, дацэнтам. Калі Пятрусь настаўнічаў у нашай дзесяцігодцы, тут вучылася дачка і, казалі, кепска вучылася». Сказаў ён так, а хлопцы пераглянуліся. Настаўнік студэнтаў і кажа Іллюку:

— У нас яна добра вучыцца. А нашто гэта вы распытваецеся?

Іллючок пакруціўся, вочы ўніз апусціў. А студэнт адзін не змоўчаў:

— Дзяўчына — адным словам. І школьны атэстат бачыў. То добры атэстат.

Кабета працягвала:

— Прыйшлі ўвечары да нас тыя студэнты на тэлевізар, сядзелі, гулялі. Адзін казаў: «Бач, кепскі чалавек адразу відаць. Прыйшоў ваш Іллюк нагаварыць на дзяўчыну, хай людзі кепска думаюць. Злосны на бацьку, дык і на дзіця астуду наводзіць».

А я сяджу, слухаю ды думаю. Даўно ж вас ведаю і скажу вам, як свай-

му: пустадомак ён, Іллючок, дый годзе! У самога гора, бяда. Мала хто гэта гора ведае. Дык бачыце як... Пустадомак і ўсё. Чужых абгаварыць. А як пра тваё раскажуць? Я ж кумою лічуся, то ведаю, што яго дзіцятка з бядою. Недзе вазілі на цёплыя воды, на курорт лячыцца. Хай на здароўе пойдзе. Ці ж можна на чужых дзяцей? Як тады тваім дзецям жыць будзе? Пустадомак сваім дзецям...

## ЗА СТАЛОМ НА ФЭСЦЕ



— Васіль расказваў. Быў у Вайцяхове фэст. І наш (які ён наш, хоць і нарадзіўся тут...) Амброжык прываloкся. Як нальюць чарку — перакуліць. Льюць, падліваюць яму і пасміхваюцца. А тады і пытаюцца ў яго: «Ці ў вашым Клетным усе так п'юць?» То ён і давай на ўсіх гаварыць ды нагаворваць. Кажа, што ўсе так, а то і больш за яго п'юць. А сам, далібог, мо не за адно Клетнае, а за тры Клетныя выпіў. Васіль слухае, сорам яму за свайго вяскоўца, ды не стрываў і кажа: «Нашто ганіш кляценскіх людзей? Такіх, як ты, — і аднаго там няма».

— Малады, — разважае жанчына, — і вучыўся, а выйшаў з яго толькі пустадомак. Няма чаго людскага сказаць пра яго.

## СУСТРЭЛІСЯ АДНАКАШНІКІ



Так здарылася, што ў сваё мястэчка да родных і сваякоў з'ехаліся, як ніколі, многа равеснікаў, і былыя хлопцы-аднакашнікі парашылі правесці вечар разам, пасядзець, павячэраць, нагаварыцца і наспявацца пры вогнішчы на высокім беразе-вале пад дубам. У вызначаную часіну не хапала толькі аднаго. Пазіраючы на сцяжынкі і ўгадваючы, дзе ён і чаму яго няма, жартам і непрыкметна ўспомнілі, што — пра іншых, а больш пра таго, хто спазніўся, — пра Грака. Хто прыгадаў, як Грак з маленства вельмі глядзеў сябе, стараўся апранацца хораша і далікатна; хто пра тое, што Грак любіў высокія і ўзвышаныя словы і цытаты, хто пра тое, як Грак, тады выпускнік школы, прыйшоў на гэты бераг пад дубам (было гэта дваццаць пяць гадоў таму назад), лёг і сказаў:

— Расцягнуўся — як бог! Люблю раскінуцца на траве. — А потым задаволены і шчаслівы, казаў: — Мы, брат, — што самі багі! Ляжым, закусваем і запіваем — як багі!

Пад дубам у вечар сустрэчы быў разасланы шырокі абрус, на ім стаялі тэрмасы з каваю, разложана адпаведная закуска, з вядра тырчалі серабрыстыя галоўкі бутэлек шампанскага.

— А-а-а! І ты нарэшце! Лажыся, тваё месца і твая талерка чакаюць цябе.

А ён акінуў вокам усіх, азірнуўся, лажыцца не спяшаўся. Потым прысеў, але не лёг...

Сыпаліся жарты. Быў рогат. Адзін толькі Грак варочаўся, перасядаў: было відаць, што сядзець яму нязручна; паспрабаваў легчы на жывот, як усе, але не паляжаў і хвіліны.

Хтосьці звярнуў на гэта ўвагу і яшчэ раз параіў легчы. А Грак не стрымаўся і, забыўшыся на тое, што некалі сам гаварыў, тут жа, пад гэтым дубам, з незадавальненнем і нервова буркнуў:

— Ды непрыстойна ж так: лежачы ядуць і запіваюць, як распусніцы. Паразлягаліся, як...

Сказаў, і тады ўсе ўбачылі і зразумелі, што Грак не мог ні есці, ні піць лежачы: замінаў тоўсты жывот-гарбуз.

Праз нейкую гадзіну Грак сышоў.

Быццам хораша згаварыўшыся, ніхто пра гэта і слова не сказаў. Хоць жыў і працаваў Грак дзесьці далёка, ведалі, што ён і прозвішча сваё падправіў, дадаўшы да яго, каб падоўжыць, суфікс, і што яму някепска жылося, і што выяўляў схільнасць да распанення, і што дачу-раздачу будаваў не са сваіх матэрыялаў, і што дайшло да непажаданага змянення яго становішча, і што ад сям'і адбіўся, і што на словы свае забыўся.

А калі падняліся, каб скончыць вечар-сустрэчу, настаўнік, якога сюды запрасілі яны, былыя вучні, спытаўся:

— То што? Для Грака ўспомнім словы школьнай старожкі Стэфы Даўнаровічышкі?

І ўспомнілі:

— Вучыцеся, але на пустадомкаў не выходзьце.

## У ПОЯС ТРАВА



Уздоўж вуліцы Горкага, у Мінску па левы бок яе, ёсць шырокае зялёнае поле, там была балотная станцыя. Яно ўрасло травою і падкультурана цімафееўкаю. Трава буяе, аж сцелецца, цімафееўка густа высыпала, быццам свечкамі на драцінках, зялёных, моцных, трывалых.

Неяк ехаў аўтобусам па гэтай вуліцы. На пярэдняй лаўцы сядзелі, відаць, маці і дачка: вельмі падобныя адна да адной. Старэйшая — спакойная і добрая, яна пазірала на бакі, распытвалася пра горад.

— Глянь, Ганулька! Пабач! Гэтакае дабро! У пояс трава. А яны — бач што! — ходзяць, топчуць. А божачка! Ды вунь — як дровы ляжаць, загараюць. І не шкада ім гэтакага дабра?

З высокага аўтобуса відаць былі купкі людзей, адны хадзілі, другія сядзелі, а трэція ляжалі, набіраючыся сонца.

— Ну і што? — сказала маладая.

— Якое ж тут «што»? Ці і ты пайшла ў пустадомкі? Гэтакае дабро! Гэтакі харч кароўцы, коніку, авечачцы! Скасіць, сабраць... Ды, мусіць жа, нідзе на зямлі такое не лішняе. І трэба ж! Не то не косяць, а яшчэ топчуць, паразлягаліся і ляжаць. Нехта ж гнаіў, урабляў поле. Нарасло дабра, а яго топчуць. Трэба на іх, пустадомкаў, дубца і слова патрэбнае...

## ЛЫТКІ КАЛАЦІЛІСЯ



— Улетку 1943 года немцы зрабілі каля школы два бункеры, у адным самі жылі, а ў другім — з дзесяць паліцаяў і ўласаўцаў. Збяруцца дзяўчаты на вячоркі, і яны прыйдуць. Раз зайшоў адзін з дзесяці і сам давай гаварыць, што немцаў добра паціснулі назад. Ганна Змітракова і пытаецца: «А дзе вы падзенецеся, як і адсюль пацісну́ць?» Ён падумаў і кажа: «Уцячом у Германію» Хацела на слове сказаць: «Пустадомкі вы ды непатрэбнікі...» Падумала, але дзе скажаш?! Стрэльбы ў іх, гранаты ў іх.

— А ўцяклі?

— Уцякалі, але вельмі лыткі калаціліся ды трэсліся, дык палавілі і пасудзілі.

## НА БЕРАЗЕ БЯРОЗЫ



На правым беразе Бярозы, недалёка ад мястэчка, якое з даўніх давён называюць местачкоўцы і сяляне навакольных вёсак Бярэзань, а на картах пішуць інакш — Беразіно, ёсць невялічкая вёсачка. На высокім беразе ў акруглай лагчыне, быццам у шырозным і неглыбокім катле з вялікаю шчарбінаю ў бок рэчкі, прытулілася хат дзесяць. У катлавіне ўрадлівая зямля, тоўсты пласт гліны, і суседнія вяскоўцы прыходзяць і прыязджаюць прасіць з вядро зямелькі на вазоны. А вакол вёскі пясчанае, як попел, поле, рэдкі хваёвы лес, і людзі паблізу не селяцца, няма зямлі пад гароды, не пасадзіш саду. Так і выйшла: з дзесяць хат тут сёння, з дзесяць іх было, сказалі мне, і пяцьдзесят і сто гадоў назад.

Я не раз завітваў у гэтую вёску. Меў тут і прытулак, і гарачую бульбу, і сырадой. Але з апошняга разу засталося... Ты тут лепш не ацэнка пачуцця і адчування, а само здарэнне. Павітаўшыся з бабулькай Альжбэтай, распытаўшыся пра яе здароўе і поспехі дачок, унукаў, зяцёў, я папрасіў адамкнуць лодачку і паказаць, дзе схаваны якар (надвор'е было ляшчовае, і хацелася хутчэй туды, пад высокі бераг...).

— Хадзіце, даражэнькі. Па дарозе раскажу крыўду сваю.

Яна паказала: на беразе стаяла яркая ружовая палатка. — Там два з горада. Дні тры стаяць тут — купаюцца, рыбу вудзяць, загараюць і малако ў нас куплялі. А сёння ўночы ўлезлі да суседкі ў сад і абарвалі маладзенькую яблыньку, мо з дзесяць на ёй завязалася, з чырвонымі бакамі і па добрым кулаку. Гаспадыня зняла адзін на паспытак, ажно — познія, цвёрдыя і кіслыя. «Хай, кажа, паспеюць, і цябе, Альжбэтка, некалі пачастую». Аж во як яно... да аднаго пазрывалі.

Мы спускаліся сцяжынкаю да ракі, да палаткі. Мая карміцелька і паіцелька нагнулася і падняла надкусаны яблык, потым другі, трэці... і калі падымала апошні, я бачыў: у яе закалаціліся рукі.

— А што ж гэта? Чэрві б вас елі!..

З палаткі вырываўся рогат. Потым выскачыў адзін хлапчына, за ім другі і нечым папусціў у першага. Гэта быў кавалак жытняга хлеба, які мякка стукнуўся аб зямлю недалёка ад нас. Старая стала і моўчкі глядзела на іх. Глядзела, не моргаючы, глядзела строга і ўладна. Сказала толькі адно слова:

— Пустадомкі!..

А хлопцы стаялі, унурыўшы ў зямлю вочы. Потым бліснуў з-пад лоба адзін, зірнуў другі. Яны бачылі ў прыгаршчах у бабулі вялікія чырвоныя надкусаныя яблыкі.

На змярканні я вярнуўся на бераг. Палаткі ўжо не было, але засталіся шматкі паперы, баначкі, бутэлькі...

## РЭДКАСНЫ ЦІ АДЗІНКАВЫ



І тое, што абазначае слова «пустадомак», і само слова — яго гучанне, яго граматычная структура — ніколі не былі мне экзатычнымі. А тыя, каго называюць пустадомкамі? Іх не сеюць...

Усе гэтыя абразкі і «асколкі» з жывой рэчаіснасці я занатаваў ад людзей — з размоў і апавяданняў — у розны час і ў розных мясцінах Беларусі. І толькі аднаго чалавека я сам ахрысціў часта паўтораным тут словам...

Надвор'е выстаялася і ўсталявалася: цёплыя сонечныя дні і свежаватыя, здаровыя, як на Палессі кажуць, ночы. Здаў выдавецтву рукапіс, закончыў лекцыі, прыняў экзамены і, запрогшы буланага «масквічыка», паехаў на некалькі дзянькоў у вёску, на рэчку, да тых людзей, сустрэчы і размовы з якімі з першага года гарадскога жыцця — мая жывіца, маё дыханне, мая энергія.

У сетачку, апушчаным на лазовым дубцы ў раку на шпаркім цячэнні, «гуляюць» жывы язь, з дзесятак плотак і шчупачок. Ужо спісаў цэлы блакнот — пачутае, падуманае і задуманае. Ужо асушаны тэрмасы і спалены пустыя пакеты з-пад «васількавага» малака. Значыць — або дахаты, або ў недалёкае мястэчка. Спыніўся на другім: трэба завітаць у мястэчка, сёе-тое прыкупіць. Ледзь паспеў паставіць на тормаз машыну, побач з'явіўся знаёмы настаўнік. Павітаўся і адразу:

— У вас «Масквіч» А мы з Васілісаю на «Волгу» сабралі. Сёлета купім.

— Добра. На здароўе!

Настаўнік запрасіў да сябе і быў пры мне, пакуль я не купіў неабходнага.

— А пітва не купляйце: дзежка бярозавага соку ў склепе стаіць.

Праз гадзіну мы былі ў хаце настаўніка. Пілі і хвалілі сок. Было прыемна пасядзець у зацененым і прыцемненым пакоі. Настаўнік паказаў картачкі дачок, уключыўшы, як воўчае вока, лямпачку. Хочаш ці не хочаш — бачыш пакой, яго багацце. Запыніўся на этажэрцы. Гляджу — і сваім вачам не веру: з трох палічак этажэркі дзве — дачушчыны (відаць з наклеек: на адной «Вандзіны», на другой «Маргарыціны»), верхняя, самая бедная — «татавы». Прыгледзеўся — ажно ў таты толькі школьныя падручнікі, зношаныя і падношаныя, абгорнутыя газетаю і не абгорнутыя. Толькі (!) тыя падручнікі, па якіх вучаць дзеці ў 5—8 класах яго навуку...

Цяжкавата было падаваць на развітанне руку і сказаць нейкае пажаданне. Смачнага бярозавіку ні адной чаркі з сабою ў тэрмас не ўзяў. Успомнілася яно, простае народнае слова, патрэбная ацэнка — пу-ста-домак. Свядома яе не сказаў. Можа — сам прачытае, можа — калегі скажуць гэта слова яму, рэдкаснаму ці адзінкаваму дыпламаванаму бяскніжніку, пустадомку.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Уладзімір БАГДАНОВІЧ

## ІНТЭРВ'Ю З МЭТРАМ

— Паважаны рэжысёр, дазвольце павіншаваць Вас з выхадам новай таленавітай кінастужкі. Нашых чытачоў цікавіць, як яна стваралася.

— Мая новая праца працягвае тэму кахання, тэму маіх папярэдніх работ. Калі ў першай стужцы я паказаў каханне як выбух, у другой — як закаханасць, то ў апошняй я вырашыў паказаць адносіны герояў кантрапунктыўна...

— Нашых чытачоў цікавіць, чаму Рыта адмовіла Барысу, а той адмовіўся стаць дырэктарам рэстарана.

— Хай гэта застанецца маім творчым сакрэтам...

— Ну, добра. У такім разе Вы, можа, растлумачыце нашым чытачам, чаму Рая адмовіла Віктару, а той згадзіўся стаць дырэктарам?

— Вашы чытачы гэта заўважылі? Дзіўна, што яны звярнулі ўвагу на прахадныя сюжэтныя лініі. Давайце пагаворым лепш аб філасофскай глыбіні майго новага твора.

— Калі ласка. Нашых чытачоў цікавіць, якой філасофіяй кіраваўся Сцяпан, спакушаючы Рыту і Раю?

— Вашы чытачы надзвычай пільныя. Гм... Сцяпан, Сцяпан.. А хто гэта?

— Як хто? Галоўны герой Вашай апошняй...

— Майго героя клічуць Арнольдам. І спакушае ён не Рыту з Раяй, а Бэлу і Ганку.

— Як жа так? Вы аўтар стужкі «Сонечны змрок»?

— Хе-хе, вось Вы і папаліся... Я аўтар «Змроку ў сонечны дзень», а «Сонечны змрок» ляжыць на сумленні майго лепшага сябра Кірылы Распацешнага.

— А хто ж Вы?

— А я Кірыла Непацешны.

— О, божа! Казалі ж мне, што ў кінамастацтве галаву можна згубіць.

— Так, наша справа патрабуе жалезных нерваў, творчай глыбіні і шырыні, вобразнага і арыгінальнага раскрыцця тэмы на экране...

— Я ўсё зразумеў. Дзякуй за інтэрв'ю.

## СКАРГА

Пазваніў Вепрукоў:

— Калыскін? Прывітанне. Слухай, тут на цябе скарга... Якая? Сур'ёзная вельмі. Грамадзянін Буслаў скардзіцца, што на яго скаргу, якую ён табе даслаў, ты нават не адказаў. Давай, братка, варушыся.

Пазваніў Калыскін:

— Скібін? Гэта я. Тут мне на цябе грамадзянін Буслаў скаргу падкінуў. Скардзіцца, разумееш, што на яго скаргу, якую ён табе даслаў, ты нават не адказаў. Блага, Скібін... Давай, давай...

Пазваніў Скібін.

— Коўзун? Грамадзянін Буслаў скардзіцца, што ты яго скаргу пад сукно сунуў. Непарадак. Разбярыся.

Пазваніў Коўзун:

— Маруся? Якую там скаргу нейкі Буслаў надрапаў? А ты пашукай, пачакаю. Знайшла? Чытай. Так, так, так... А пры чым тут мы? Ну, добра, адкажы яму, што меры прымем. Усё. Алё, таварыш Скібін? Коўзун турбуе. Са скаргай Буслава разабраліся. Справа ў тым, што бюро прагнозаў падвяло. Абяцалі сонечны дзень, а пайшоў дождж, і Буслаў вымак, насмарк падхапіў. А як жа, адказалі. Меры прымем.

Пазваніў Скібін:

— Карп Іванавіч? Скібін турбуе. Са скаргай разабраўся. Коўзун вінаваты. Канечне, канечне. Меры прымем.

Пазваніў Калыскін:

— Прабачце, Сямён Піліпавіч, што адрываю. Са скаргай разабраўся. Скібін, разумееце, падвёў. Будзе выканана. Меры прымаем. Да пабачэння.

Вепрукоў уздыхнуў і ўзяўся за пяро:

«Паважаны т. Буслаў!

Паведамляю, што Ваша скарга грунтоўна разгледжана. Факты пацвердзіліся. Вінаваты пакараны.

З павагай С. П. Вепрукоў».

Лотар КУШЭ

## СТАРЫ ЧАЛАВЕК, А ДАЛЕЙ ШТО?

*альбо*

## ШТО ХАЦЕЎ СКАЗАЦЬ ХЕМІНГУЭЙ

А ПОВЕСЦЬ Хемінгуэя «Стары і мора» добра падыходзіць не толькі чытачу, але і для крытычнай інтэрпрэтацыі.

Стары кубінскі рыбак, у якога восемдзесят чатыры дні не было ніякага ўлову, нарэшце злавіў такую вялізную рыбіну, якой дагэтуль ніколі не бачыў. Стары, адзін у лодцы, вытрымлівае доўгі і цяжкі бой, спачатку з рыбінай, якую ён забівае і прывязвае да лодкі, а потым з акуламі. Стары змагаецца, як толькі можа. Але ўсё ж ён пераможаны. Акулы з'ядаюць яго вялізную рыбіну да самых касцей.

А цяпер правядзём апытанне грамадскай думкі. Ёсць шмат тлумачэнняў і тлумачальнікаў. Прафесійны крытык авалодвае творам, глядзіць на яго да таго часу, пакуль твор, прынамсі для яго, не робіцца настолькі празрыстым, што праз яго лёгка разгледзець жыццё немцаў.

Тады можна лёгка растлумачыць пісьменніку і яго чытачам, у чым жа, уласна кажучы, сэнс твора, таму што тое, што хоча сказаць крытык, у творы звычайна адсутнічае зусім ці выказана яно вельмі слаба. Такім чынам, патрэбна тлумачэнне.

Што ж хацеў сказаць Хемінгуэй сваёй аповесцю?

1

Чалавек, які ўступае ў барацьбу, — цудоўны: ён аказвае супраціўленне акулам нават пасля таго, як зламаўся яго нож. Чалавек, які ўступае ў барацьбу, заўсёды перамагае.

2

Акулы заўсёды перамагаюць людзей, тым больш старых людзей. Апошнія вратоўваюць ад драпежных рыб толькі нікому не патрэбны шкілет; барацьба дзеля барацьбы.

3

У аповесці Хемінгуэя стары сімвалізуе дробнага прадпрымальніка, у якога ўсё з'ядаюць акулы, гэта значыць канцэрны.

4

Не, не ў асобе старога, а ў мечрыбе бачым мы дробнага прадпрымальніка. Акулы ўвасабляюць канцэрны — гэта так, але вобраз старога не мае сімвалічнага сэнсу і, па-сутнасці, ён лішні.

5

Аповесць праслаўляе заганны індывідуалізм: стары — адзін з тых вялікіх адзіночак, якія імкнуцца заваяваць свет, у дадзеным выпадку — рыбу. Само сабой зразумела, у лодцы старога няма радыёпрыёмніка, таму што індывідуалісту радыё не патрэбна.

6

Аповесць рэзка крытыкуе індывідуалізм. Мы зноў пераконваемся, што рыбалоўным промыслам у сучасным акіяне можа паспяхова займацца толькі рыбалавецкая гаспадарка, а не які-небудзь асобны стары.

7

Хемінгуэй хацеў сказаць сваёй аповесцю, наколькі лепш жывецца старым людзям у ГДР, чым на тагачаснай Кубе.

8

Сэрца аўтара належыць рыбам, гэтым цудоўным старажытным стварэнням, з якімі ні ў якое параўнанне не ідзе ні стары, ні чалавек увогуле. Лёс рыб загадзя вызначаны невядомымі сіламі, якія недаступны звычайным людзям. Барацьба — глупства, у выніку на нашу долю выпадае толькі некалькі абгрызаных рыбіных костачак.

9

Аповесць «Стары і мора» адкрывае новую эпоху ў творчасці амерыканскага пісьменніка Э. Хемінгуэя. Аўтар упершыню выказаў думку аб тым, што можна піць і ваду.

10

Цудоўная навела, сапраўдны гімн піву

Тонкі ход аўтара: ён дае свайму герою выпіць усяго-наўсяго адзін кубак піва і адпраўляе яго потым у водную... пустыню, — які кантраст! Навела магла б называцца «Стары і смага»!

11

Хемінгуэй хацеў сказаць сваёй аповесцю, што мора, відавочна, помсціць за тое, што ў яго адымаюць рыбу, каб з'есці яе ў свежым выглядзе ці засаліць, і, акрамя таго, калі адпраўляешся ў акіян на рыбалку, то добра б заўсёды браць з сабой крыху солі, парачку патронаў і яшчэ што-небудзь, чым можна хутка забіваць акул.

Заключаючы наша апытанне, хочацца адзначыць, што аўтар памайстэрску напісаў сваю аповесць —і не больш таго, што ягоны пункт гледжання просты, хутчэй прымітыўны, але гэта той пункт гледжання, на які і здольны Хемінгуэй.

Пераклад з нямецкай М. НАВІЦКАГА.

## *Лёгкім штрыхам*

Сяброўскія шаржы З. ПАЎЛОЎСКАГА.



Рыгор Шырма



Мікола Гамолка.

Аўдоля КОРЧ

## КАХАНАЙ

Рукі моц бязмерную адчулі,
Што б ні ўзяў цяжкое—падніму.
І, здаецца, я б зямную кулю,
Як ядро спартыўнае, шпурнуў.

Алесь СТАВЕР

**Мне дало такую моц каханне,**
**Што, калі адкінуць сантымент,**
**Абапруся на сцяну я ўранні —**
**Разбураецца сцяна... Ушчэнт.**

**Ты жыві, харошая, і слухай,**
**Што прыйду я па тваю душу.**
**Круціцца зямля прывычным рухам:**
**Гэта ж я нагою калышу...**

## ГЭТЫ МАЛА ЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

*Алігатар (размоўн.)—аматар віна «Алігатэ».*

*Антысвет—фіранка.*

*Артыкуляцыя—шлях артыкулаў ад стала рэдактара да кошыка.*

*Валакітчык — нешта сярэдняе паміж валом і кітом.*

*Вербаваць (састарэл.) — секчы лазой.*

*Выкупшчык — трэнер па плаванні.*

*Гіраскоп — калекцыянер гір.*

*Дантыст (літ.) — знаўца творчасці Дантэ.*

*Загарадка — паездка за горад.*

*Засценак — сусед па кватэры.*

*Кажан — гаваркі чалавек.*

*Картэж—гуляка ў карты.*

*Касмапаліт — нястрыжаны палітык.*

*Лейцы — палівальшчыкі.*

*Муляж — каменьчык у чаравіку.*

*Нашчадак — чалавек, які не паспеў паснедаць.*

**Браты БАРОЎКІ, Я. КАШКАН, М. МІРАНОВІЧ.**


**По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600. ГСП, Мінск, вул. Захарава. 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04 аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62 аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19. бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.